ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 98 — 99 (5280 — 5281)
Аўторак, 28 жніўня 2001 года

Кошт у розніцу — 160 руб.

# Мы павінны быць разам

### У Мінску прайшоў спартыўна-музычны фестываль "За саюз"

У мінулыя выхадныя многім мінчанам не давялося ламаць галаву над тым, як правесці час — загадзя ў іх быў запланаваны паход на сталічны стадыён "Дынама". Дарэчы, вялізны стадыён быў амаль поўнасцю заняты. Чаму такая зацікаўленасць? Вядома, на гэты дзень планавалася вялікая спартыўна-забаўляльная праграма. Але ж людзі прыйшлі сюды не толькі дзеля яе. "Тут кожны сваёй прысутнасцю галасуе за саюз Беларусі і Расіі", — адзначыў праграмны дырэктар "Альфа-радыё", адзін з самых папулярных ды-джэяў нашай краіны Сяргей Кузін.

З упэўненасцю можна сказаць, што спартыўна-музычны фестываль "За саюз" выклікаў вялікую цікавасць. Яго арганізавалі Пастаянны камітэт саюзнай дзяржавы, Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь, Мінскі гарвыканкам, Рэспубліканскі цэнтр культуры і мастацтваў моладзі "Ювентус". Пачаўся фестываль футбольным матчам, у якім удзельнічалі зборныя каманды ветэранаў СССР і Беларусі. Сярод удзельнікаў былі такія зоркі, як Ігар Беланаў, Аляксандр Прохараў, Міхаіл Гершковіч, Георгій Кандрацьеў і іншыя. Быў сапраўды "класны" футбол. Дарэчы, беларусы выйгралі з лікам 6 : 5.

Футбалісты атрымалі шмат прызоў і падарункаў. Былі вызначаны лепшыя спартсмены матча, якія атрымалі ў якасці прызоў па аўтамабілю ГАЗ 31-02. Зоркі спорту прынялі рашэнне падараваць гэтыя машыны беларускім дзіцячым дамам.

Пасля футбола адбыўся розыгрыш прызоў сярод гледачоў, які правёў папулярны вядучы беларускага тэлебачання Сяргей Кухто. Сваіх уладальнікаў знайшлі 20 тэлевізараў, 20 відэамагнітафонаў, 10 халадзільнікаў і 2 аўтамабіля.

Працягам праграмы фестывалю быў канцэрт, які вялі Лаліта Міляўская і Сяргей Кузін. У ім удзельнічалі такія беларускія і расійскія эстрадныя знакамітасці, як "Сябры", Валерый Меладзе, Крысціна Арбакайтэ, Алег Газманаў, Вітас, Кірыл Слука, ДзіБронкс і Наталі, "Высакосны год", Уладзімір Ухцінскі, Наташа Каралёва і многія іншыя вядомыя выканаўцы. Па ўсім відаць, саюзная дзяржава вельмі ўважліва паставілася да гэтага фестывалю — як да вялікага свята. І атмасфера на мінскім стадыёне была вельмі цёплай, добразычлівай, сапраўды святочнай. Гэта адчулі і артысты. Яны, як мне здалося, з задавальненнем прымалі ўдзел у фестывалі. Мне стала цікава, як жа самі зоркі ставяцца да саюза нашых дзяржаў?

Анатоль Ярмоленка: "Добра, калі разам збіраюцца артысты, палітыкі, проста жыхары дзвюх краін, разам гуляюць, спяваюць, узгадваюць тое добрае, што нас аб'яднала. Так заведзена ва ўсім цывілізаваным свеце. Горш, калі б мы глядзелі адзін на аднаго з варожасцю. Таму мы заўсёды прымалі і будзем прымаць удзел у мерапрыемствах, якія аб'ядноўвае сяброўства — не дарэмна ж мы — "Сябры"! Ніхто не супраць таго, каб жыць у саюзе з Расіяй. Калі мы будзем адчуваць сабе тут, як дома, я — за такі саюз, бо ён дапаможа нам вырашыць многія нашы пытанні. Сёння нікуды не дзецца ад той глабалізацыі, што адбываецца ў свеце. Мы ўжо жылі і спявалі разам — вось гэта наш саюз".

Сяргей Кухто: "Мне крыўдна, што нам прыходзіцца даказваць відавочнае — тое, што мы павінны быць разам, што дзяліць нас не мае сэнсу. Але ж добра, што мы даказваем гэта на канцэртных пляцоўках, футбольных палях — шляхам творчасці і спорту".

Наталі: "Вядома, моладзь нашых краін была і застаецца разам. Мы — сябры, незалежна ад межаў. Яны не перашкаджаюць нам".

**Вольга ЗАЙКІНА.**

# У школе новы дырэктар

Калі ў восьмую школу Маладзечна быў прызначаны новы кіраўнік, я, яе першы дырэктар, павіншаваў яго, бо ведаў раней як былога выпускніка школы. Ён вярнуўся ў сваю родную школу пасля заканчэння педінстытута і службы ў арміі, працаваў ужо настаўнікам, затым завучам.

— Зайшлі б, пагутарылі, — запрасіў ён асцярожна.

Я адмовіўся: "Паварыся спачатку ў сваім саку, падумай, не забудзь заглянуць у некаторыя гадавыя планы, пратаколы педсаветаў..."

— І пачытаць вашы матэрыялы пра школу, што былі змешчаны ў мясцовым друку і ў "Настаўніцкай газеце", — дадаў Расціслававіч — так па бацьку яго называлі яшчэ з часоў школьных за сур'ёзнасць і павагу...

Пасля такой размовы я з палёгкай уздыхнуў, сустрэцца хацелася, але лічыў, што гэта неэтычна: былы салдат, настаўнік, завуч — сам разбярэцца...

І вось амаль праз год, напярэдадні свята Перамогі, прыносяць мне вучні запрашэнне на традыцыйную сустрэчу школы з ветэранамі вайны, а подпіс — самога дырэктара. Жыве традыцыя! І была затым урачыстая частка, выступалі ветэраны, потым — мастацкая самадзейнасць вучняў і нават саміх настаўнікаў. Гэта ўжо новае. Затым... Затым мы ў кабінеце, дзе калісьці я правёў два дзесяткі год, а ён — першы...

— Прайшоў гонар, — пытаюся, — ад таго, што заўважылі, даверылі?

У адказ — скупая, шчырая ўсмешка...

— Гонару адчуў мала, а вось адказнасці — больш. Каб не падвесці настаўнікаў, што вучылі, сяброў-аднакласнікаў, што побач працуюць, і вас, былых кіраўнікоў, а таксама першую настаўніцу і сваю маці, таксама матэматыка школы...

Ну і стараўся, хоць бывала і цяжка... Але ж памятаю вашы словы, што калісьці гучалі на агульных лінейках, як мне казалі настаўнікі на педсаветах... Школа, маўляў, трымаецца на чатырох кітах: высокая паспяховасць, свядомая дысцыпліна, мастацкая самадзейнасць і спорт. Тым жыў у надзеі і жыву зараз... Праўда, ёсць удасканаленні, рэформы... Шлях — вядомы, мэта — адна: Чалавек — сын у сям'і, грамадзянін Бацькаўшчыны...

Я слухаю свайго пераемніка, ужо як прадаўжальніка, і ўспамінаю: такое адбывалася ў восьмай школе амаль сорак год таму — былі ж і раней рэформы, і была моладзь у калектыве. А хіба гэта недахоп?...

— Школа наша па-ранейшаму шматлікая, а вось бацькі, вучні змяніліся, — працягваў Аляксей Расціслававіч. — Бацькі вельмі маладыя, бо ў іх адно, рэдка два дзіцяці, а гэтыя нашчадкі больш складаныя. З аднаго боку, як бы і лягчэй, а з другога... Давай, каб ім было і лёгка, і лепей. Напрошваецца бацькоўскі "лікбез". Як растлумачыць бацькам, што іхнія адзіныя, непаўторныя — звычайныя дзеці, якімі былі і яны, што іх чакае такое ж жыццё ў працы — ніхто за іх працаваць не будзе! А яны ў сям'і акружаюць дзяцей бязмернымі клопатамі, купаюць у моры любові. Вынік вядомы: няма звычкі ў дзяцей да простай дамашняй працы. Дзяўчынкі растуць беларучкамі, а хлопцы — лайдакамі. За іх працуюць бабулі, дзядулі.

Аднойчы мне давялося пачуць на бацькоўскім сходзе, што ім, бацькам, асабліва маці, нялёгка выхоўваць дзіця — на рабоце будзь, дома на табе ўсе клопаты. Далей я запомніў кожнае слова, бо зала прыціхла — гаварыла жанчына:

— У сям'і тры мужыкі, гаспадар — чыгуначнік, а хлопцы — школьнікі. Сама працую па званку, і мне не цяжка, бо хлопцы дапамагаюць. Яны і ежу прыгатуюць, і шкарпэткі памыюць, і да прыходу з дзяжурства бацькі ў кватэры "марафет" навядуць — паважалі бацьку дзеці.

— Ну, і? — другі раз спытаўся я.

— А яшчэ, будучы завучам, паспрабавалі ўзняць дзіцячую праблему дамашніх спраў на секцыях класных кіраўнікоў і настаўнікаў-пачаткоўцаў. Але штосьці не спрацавала. Толькі асобныя праявілі зацікаўленасць... Я думаю па-ранейшаму. Вучыцца для жыцця, каб выхоўваць сумленных, працавітых — немалаважная задача школы. Тут і садружнасць наша, і асобаснае выхаванне, і пачынаць патрэбна з тых "першых крокаў", што зроблены... Прыжываецца, вядома, толькі тое, што пройдзе праз пачуццё ў самым маладым узросце, астатняе, што ў пазнейшы час, толькі прышчэпліваецца або не...

На ўрок пачаткоўцаў павінна прыйсці гульня з лялькамі, з "муркамі", каб самі дзеці стваралі для іх дабрабыт, праяўляючы клопат і гаспадарчую руплівасць... Менавіта тут народзіцца самастойнасць, якая павядзе ў самастойнае жыццё. Толькі такім чынам можам пазбавіцца ад той "сістэмы" выхавання маладых бацькоў, калі рыхтуюць дзяцей да жыцця, якога самі не ўяўляюць. А вынік вядомы: эгаіст, спажывец, вартая жалю бязвольная, бездапаможная істота. Такіх вакол нямала...

Я слухаў гэтыя словы роздуму ўжо сталага чалавека і верыў, што ён "пацягне" на бясконцым школьным шляху, што збудуцца яго мары аб выхаванні добрасумленнай, духоўна багатай, мужнай і фізічна дасканалай асобы...

Але хочацца вярнуцца да таго, з чаго пачынаў: з прыходу ў школу новага дырэктара. У данным выпадку ўдалы прыклад: прайшоў школьныя гады ў калектыве, які даў "пуцёўку ў жыццё", дзе спачатку нарадзілася мара (і не выпадкова!), якую ён здзейсніў і вярнуўся ў свой родны калектыў да пастарэлых і пасталелых педагогаў, якія сталі калегамі, дзе яго прыемна сустрэлі і ў цяжкія часы шчыра дапамагалі. Міма яго не прайшлі тыя пошукі новага, што пачыналіся, здабыткі, што былі знойдзены і замацоўваліся. Удумлівы, здольны вучань, памяркоўны, добразычлівы і эрудзіраваны настаўнік, дырэктар, які глыбока разумее навучальны працэс ужо на новым этапе развіцця адукацыі — на этапе рэформы. Вучыцца і вучыць, вучыцца ў жыцця. Праз практычную дзейнасць — ісці на зблiжэнне з прыродай, абараняць і прымнажаць яе багацці. Гэта ён бачыў ужо, калі на пустэчы вакол школы вырас гай, які стаў месцам адпачынку жыхароў горада. Ён, прайшоўшы армейскае жыццё, разумее, наколькі важнае для чалавека здароўе, бо яно само не прыходзіць, таму для развіцця моладзі ёсць добра абсталяваны спартыўны комплекс. Гэта ўсё рабілася на яго вачах і не толькі сведкай ён быў, а шчырым саўдзельнікам...

**Прыход у школу новага дырэктара — заўсёды падзея, бо тычыцца яна не толькі калектыву настаўнікаў і вучняў, але нават і бацькоў. Неабыякавыя да яе і былыя працаўнікі, якія ў свой час прыклалі шмат намаганняў, каб стварыць дружны калектыў, паважаны бацькамі і вучнямі. Натуральна, узнімаліся пытанні: хто ён? Ці пацягне? Ці не парушыць традыцыі, якія складваліся гадамі?**

Дарэчы, калі я прыйшоў у школу для гутаркі з дырэктарам, мяне сустрэла дзяжурная: "Калі вы да Расціслававіча, ён у камп'ютэрнай." І падазвала дзяўчынак, каб мяне да яго правялі...

— Сямікласніцы? — пытаюся.

— Ужо, — адказваюць. — А як вы даведаліся?

— Дык пра вас па радыё перадавалі, — адказваю. — І яшчэ пыталіся: "А які прадмет выкладае ваш дырэктар?" Ведаеце?

— А ўсе прадметы, — пачалі дзяўчынкі наперабой. — Прыйдзе ён у клас, калі нечакана захварэла настаўніца, спытае, што на дом было. Апытае нас, ацэнкі паставіць, і далей, каб не адсталі, новае растлумачыць... Проста дзіўна, як ён усё ведае, — задаволена прамовілі дзяўчынкі...

І вось камп'ютэрная. Абсталявана, як у людзей, бо сам дырэктар — і фізік, і матэматык. Але ў кабінеце ён не адзін: паўдзясятка хлопчыкаў і дзве дзяўчынкі за машынамі... І гэта ў час канікул: на дварэ ліпень ... і рамонт школы?

Знайшліся ў дырэктара і час, і жаданне.

— Што за кампанія? — пытаюся жартам.

— Наша змена, — адказаў з усмешкай, — ужо рыхтуем...

Толькі два штрыхі, але яны адметныя: калі настаўнік — сапраўдны настаўнік, у яго ўсё панастаўніцку... Дробязяў у выхаваццеля, як вядома, не бывае. Тым больш, што гэта быў дырэктар, а ён жа яшчэ і дарадца, і сябар, і руплівы гаспадар. Высокі, статны, разважлівы, крыху флегматычны: у словах скупаваты, няспешны. Такія павольна запрагаюць, але...

Ідзем пасля гутаркі па рэкрэацыі: вакол рамонт, падчышчаюцца панелі, фарбуюцца вокны, дзверы, падлога. Рыхтуецца школа да новага навучальнага, каб прыняць сотні новых вучняў.

А на тэрыторыі таксама змены: выкарчаваны старыя кусты, і ўжо вырастаюць атожылкі новых... І толькі перад уваходам у школу стаяць два вялізныя кусты язміну, абдаюць прыемным пахам у час цвіцення, а вакол сцяна дрэў — шумяць, пяюць бясконцую песню. А жыццё прадаўжаецца...

Аднойчы на лінейцы апошняга званка вучань-выпускнік прамовіў: "Школа — гэта карабель, а дырэктар — яго капітан..." Удалае параўнанне. Сапраўды, карабель баразніць прасторы мора, а школа — прасторы жыцця. Як першаму, так і другому жадаем шчаслівага плавання, спадарожнага ветру і трымаць сувязь з родным берагам.

Пажадаем гэтага і новаму капітану карабля — школы № 8 Маладзечна.

**Уладзімір КАРАЛЬКОЎ,**
**ветэран вайны і працы.**



# Экспедыцыя "Зялёная школа" пабывала ў Мінску



У Мінску пабывала эколага-турыстычная экспедыцыя "Зялёная школа" з польскага горада-пабраціма Маскоўскага раёна Зялёна Гура. Больш чым двухгадовае сяброўства звязвае калектывы экалагічнай школы з Польшчы і мінскай сярэдняй школы № 181. Іх настаўнікі і вучні неаднаразова абменьваліся візітамі, удзельнічалі ў агульных экалагічных праграмах. Гэтым разам іх палатачны лагер размясціўся ў маляўнічым лясным масіве непадалёк ад чыгуначнай станцыі Зялёнае пад Мінскам. Тут была праведзена эколага-турыстычная рабінзанада, пракладзена экалагічная сцяжына, адбылася сустрэча з работнікамі ляснолй гаспадаркі, прайшлі спартыўныя гульні і культурна-забаўляльныя мерапрыемствы.

НА ЗДЫМКАХ: падчас сустрэчы; "сякера — гэта сур'ёзна", — лічыць дзесяцікласнік сярэдняй школы № 181 Павел Пісьменскі.

**Фота Аляксандра ДЗІДЗЕВІЧА, БЕЛТА.**



Скажу добрае слова

# Настаўнік-даследчык

Сярод асветнікаў Мядзельшчыны, вядомых сваім працоўным, творчым почыркам, адметнае месца належыць настаўніцы геаграфіі, намесніку дырэктара сярэдняй школы №2 Мядзеля Тамары Грышкевіч.

Паслужны спіс Тамары Фёдараўны красамоўна сведчыць пра тое, што яна — таленавіты настаўнік-даследчык, творчы арганізатар адукацыі, педагог-географ, якога адразу заўважылі: з пераездам на радзіму ў Мядзел — праца ў раённым аддзеле адукацыі, дзе Грышкевіч вяла раённую школу "Адораныя дзеці", клуб "Юны даследчык-эксперыментатар". Не адзін год узначальвала пададдзел па дыферэнцыявана-індывідуальным навучанні і выхаванні падлеткаў. Зараз — праца ў сярэдняй школе № 2 райцэнтра. Тамара Фёдараўна вось ужо 11 гадоў з'яўляецца, па сутнасці, настаўнікам настаўнікаў, вядзе навукова-метадычную работу з педкалектывам.

Пётр Мікалаевіч Дурэйка, намеснік загадчыка аддзела адукацыі, зазначае:

— Т.Ф.Грышкевіч мае талент прыкмячаць і вылучаць дзяцей-зорачак. Штогод яе вучні — удзельнікі абласных і рэспубліканскіх алімпіяд. Яе выпускнікі становяцца студэнтамі геафака ў БДУ і педагагічных ВНУ, а ўступныя экзамены па геаграфіі здаюць не ніжэй чым на "5".

Ларыса Сіскевіч, Зоя Валасевіч, Коля Шабовіч, Алеся Лашук, Сяргей Скурко — вось тыя зорачкі, якія павышалі аўтарытэт сваёй школы пасля перамог на раённых, абласных і рэспубліканскіх алімпіядах па геаграфіі і прынеслі незвычайную радасць сваёй любімай настаўніцы — Тамары Фёдараўне Грышкевіч.

З цеплынёй згадвае Тамару Фёдараўну Сяргей Скурко — яе былы вучань, зараз — выпускнік геафака БДПУ імя М.Танка. Ён называе настаўніцу "педагогам ад Бога". Як географ Т.Ф.Грышкевіч творча асвойвае новыя педагагічныя тэхналогіі навучання. Так, модульная тэхналогія і Дальтан-план — гэта "педагагічны канёк" настаўніцы.

Муж Т.Ф.Грышкевіч — таксама педагог, фізік, дырэктар сярэдняй школы №1 Мядзела. Мікалай Лявонцьевіч і Тамара Фёдараўна выхоўваюць двух сыноў — Федзю і Дзіму. Яны ўпэўнены, што іх сыны-пяцікласнікі ў будучым стануць педагогамі.

Навукова-метадычнае даследаванне, над якім вось ужо колькі гадоў працуе Т.Ф.Грышкевіч ("Нетрадыцыйныя формы правядзення ўрокаў геаграфіі ў сярэдняй школе"), будзе апублікавана ў часопісе "Геаграфія ў школе".

**Мікола ГРУДЗІНСКІ,**
**метадыст Мінскага абласнога ІПК.**

# Даражаць даверам

Скідзельскае ПТВ-199 штогод выпускае ў дарослае жыццё 180-200 чалавек. За 17 гадоў было падрыхтавана большяк 3 тысячы спецыялістаў з сярэдняй адукацыяй па спецыяльнасцях сельскагаспадарчай вытворчасці, у тым ліку майстар — плодаагароднік.

Вучэбна-вытворчая база дазваляе якасна ажыццяўляць прафесійную падрыхтоўку. Для навучання прадастаўлены цяпліца звыш 200 квадратных метраў, парнікі каля сотні квадратных метраў, 5,5 гектараў саду, у якім растуць пладовыя дрэвы і ягаднікі прагрэсіўных сартоў, выдзелена 1,5 гектара зямельнага участка пад агарод, 5 гектараў — пад цукровыя буракі. Майстрамі вытворчага навучання з'яўляюцца вопытныя педагогі з практычнымі навыкамі і тэарэтычнымі ведамі Вольга Аляксееўна Войтас і Аліна Тадэвушаўна Квяткоўская. Іх умелымі рукамі тут вырошчваюцца памідоры, агуркі, капуста, перцы і інш.

— Вольга Аляксееўна, — гаворыць намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчым навучанні А.К.Паўлаў, — вельмі здольны спецыяліст, адданы сваёй справе. А чатыры гады таму даверылі ёй пасаду майстра вытворчага навучання. Яе здольнасці на гэтай пасадзе былі заўважаны ва ўпраўленні адукацыі аблвыканкама, якое палічыла мэтазгодным правесці ў нас семінар майстроў вытворчага навучання ўсёй вобласці. Наша супрацоўніца падзялілася вопытам работы на практычных занятках, паказала вучэбна-вытворчую базу. Па сваім характары Вольга Аляксееўна — дабрадушная, сціплая, за што яе вельмі паважаюць навучэнцы.

Адчувальную дапамогу ў вучэбна-вытворчым працэсе ПТВ аказвае калгас "Скідзельскі", які выдзяляе неабходную колькасць арганічных і штучных угнаенняў, з'яўляючыся ў пэўным сэнсе практычнай базай для навучання па большасці спецыяльнасцей. Паміж калгасам і вучылішчам — добрыя кантакты.

**Ілля БАРЫСАЎ.**

# "Крыніца" № 68

Пабачыў свет жнівеньскі нумар часопіса "Крыніца", які адкрываецца "постаццю" "Я" Валерыя Маракова, аднаго з даволі цікавых, але маладаследаваных беларускіх паэтаў пачатку XX стагоддзя. Ён быў расстраляны восенню 1937 года сталінскімі апрычнікамі як "нацдэм" і "вораг народа", паспеўшы выдаць за сваё кароткае жыццё чатыры невялікія зборнічкі вершаў. Друкуюцца невядомыя чытачам, пазбаўленыя бальшавіцкай цэнзуры вершы паэта, а таксама ягоны "жыццяпіс" ды словы наўздагон яго трагічнаму жыццю і паэтычнай творчасці літаратараў В.Рагойшы, М.Мішчанчука, А.Марціновіча, А.Бельскага і С.Верацілы.

У рубрыцы "ЁН" чытачы часопіса гэтаксама мецьмуць магчымасць пазнаёміцца з жыццём і творчай біяграфіяй неардынарнага англійскага літаратара-ідэолага Олдаса Хакслі і прачытаць поруч з расповедам пра пісьменніка яго навелу "Х'юберт і Мінні" ды эсэ "Культура і асоба" ў перакладзе з англійскай мовы.

Друкуюцца два цікавыя пераклады. Жанна Некрашэвіч ды Ірына Шкурдзюк пераклалі з лацінскай мовы "Верш на ахвяраприношэнне чорнага быка ў Рыме, учыненае публічна нейкім грэкам дзеля супрацьстання чуме" знанага нашага земляка Міколы Гусоўскага, аўтара сусветна вядомай "Песні пра зубра".

Для рубрыкі "Яны" Святлана Сачанка пераклала з польскай мовы публіцыстыку Казіміра Барташэвіча — урывак з кнігі "З гісторыі паўстання Касцюшкі".

Арыгінальныя тэксты сучаснай беларускай літаратуры таксама прысутнічаюць у жнівеньскім нумары часопіса.

У рубрыцы "У нас" — аповесць-эсэ Сяргея Верацілы "Смех багоў", аўтабіяграфічныя навелы Сяргея Рублеўскага, "Зацемкі з левай кішэні" Леаніда Галубовіча, арытмічная паэзія Міколы Купрэева.

У напаўсур'ёзнай рубрыцы "Яно" друкуюцца "Афрыканскія рэчытатывы" паэткі, навукоўцы-тэолага Агаты Кормак.

*Наступны нумар "Настаўніцкай газеты" выйдзе ў суботу 1 верасня.*

# Стадыён

**Фізкультурна - спартыўны выпуск "НГ"**

Спартыўная панарама

## Кожны знаходзіць занятак па душы

Арганізацыя змястоўнага вольнага часу дзяцей і падлеткаў з'яўляецца адным з кірункаў дзейнасці Рэспубліканскага цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

Аздараўленне юнакоў і дзяўчат праводзіцца РЦФВіС вось ужо тры гады запар на вучэбна-спартыўнай базе "Вілія", якая размяшчаецца на беразе маляўнічай рэчкі з аднайменнай назвай недалёка ад Маладзечна. Навокал — хвойны і бярозавы лес. Гімнастычны гарадок, манеж, гасцініца — якраз на беразе Віліі. Тут жа — сталоўка. Дзеці не толькі адпачываюць, але і знаходзяць сабе занятак па душы — усе яны з дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ і школ алімпійскага рэзерву.

Тут ёсць футбольнае поле з лёгкаатлетычнымі дарожкамі і сектарамі для кідання і скачкоў, побач — валейбольная і баскетбольная пляцоўкі. У распараджэнні спартсменаў і трэнераў — крыты манеж. Дзюдаістаў там чакае татамі, а барцоў грэка-рымскага і вольнага стылю — дыван.

Ёсць памяшканне для прыхільніц мастацкай гімнастыкі, сучаснае абсталяванне ўстаноўлена для гімнастаў. Большую частку часу сваёй падрыхтоўкі акрабаты праводзяць менавіта тут: і танна, і ўтульна, і ад Мінска не надта далёка. Ёсць пляцоўка для заняткаў міні-футболам, валейболам, баскетболам.

Акрамя двухразовых трэніровак, у летніку масавіком-забаўнікам арганізуюцца забаўляльныя розыгрышы і гумарыны, конкурсы клуба вясёлых і знаходлівых і "Міс змены". А на дыскатэках прадстаўляецца выключная магчымасць наладзіць новыя кантакты, пазнаёміцца бліжэй.

Раніцай жа зноў усё ідзе па старым распарадку: пад'ём, зарадка, снеданне, трэніроўкі. Такі рытм жыцця і дысцыплінуе, і настройвае на пэўны лад. І не выпадкова: аздараўленчая работа тут сістэматызавана і разглядаецца як працяг вучэбна-выхаваўчага працэсу ў сістэме адукацыі. На зімовых, вясенніх, летніх і асенніх канікулах вучні і студэнты маюць магчымасць і аздаравіцца, і з карысцю для сябе адпачыць чатыры разы ў год.

## Усмешкамі асвецім лета

***На летніх аздараўленчых пляцоўках пры дзіцячых пакоях ЖЭУ унітарнага прадпрыемства "Жыллё" адпачынак юных барысаўчан быў расплanaваны з улікам іх інтарэсаў і ўзроставых асаблівасцей.***

Перавага (што цалкам задавальняла дзяцей) аддавалася рухомым гульням, якія педагогі стараліся ладзіць на свежым паветры. Больш за ўсё падапечным "Жылля" спадабаліся паходы ў зялёную зону, прычым адпачынак па традыцыі спалучаўся з экалагічным выхаваннем. Падлеткі агароджвалі мурашнікі, прыбіралі смецце, сачылі за тым, каб і пасля сябе пакінуць чыстую палянку.

Хлапчукі і дзяўчынкі ўдзельнічалі ў акцыі "Чысты горад", прысвечанай 900-годдзю Барысава. Яны сачылі за парадкам на тэрыторыях каля ЖЭУ, высаджвалі кветкі і ўсю змену даглядалі іх.

Часу сумаваць зусім не заставалася. Шматлікія цікавыя экскурсіі праходзілі ў родным горадзе, у Мінску, у этнаграфічным цэнтры "Дудуткі", у Бярэзінскім запаведніку. Дзеці наведалі асобныя прадпрыемствы Барысава, краязнаўчы музей і музей ПАСО-2, пабывалі на тэматычных вечарах у цэнтральнай гарадской бібліятэцы, хадзілі ў кінатэатры.

Конкурсы, гульні, дыскатэкі чаргаваліся са спартыўнымі мерапрыемствамі. Збіраючы вялікую колькасць балельшчыкаў, праходзілі сяброўскія сустрэчы футбольных каманд. Шмат новага даведаліся дзеці з аздараўленчай пляцоўкі пры ЖЭУ-3 падчас віктарыны, прысвечанай спартыўнаму турызму, якую правёдзіў кіраўнік гуртка велатурыстаў (дзіцячы пакой "Гранада") В.Б.Карасік.

С.А.Антонава, спецыяліст УП "Жыллё", якая курыруе дзіцячыя пакоі пры домакіраўніцтве, паведаміла наступнае:

— Мы ўсе пастараліся, каб дзеці цікава правялі час, адпачылі, аздаравіліся. Добра папрацавалі і педагогі, у тым ліку і пачаткоўцы — практыканты з педкаледжа, — і медыкі, і работнікі сферы харчавання.

На кожнае дзіця было выдзелена па 30 тысяч рублёў, толькі 3 тысячы даплачвалі бацькі. УП "Жыллё" шмат сродкаў затраціла на падрыхтоўку памяшканняў і абсталяванне суседніх тэрыторый. Каб дзеці адпачылі ў належных умовах, было ўкладзена каля 4 млн. рублёў.

196 юных барысаўчан задаволеныя тым, як яны правялі час на аздараўленчых пляцоўках пры дзіцячых пакоях ЖЭУ. Нездарма многія з іх стараюцца трапіць сюды і на наступныя канікулы. Колькасць ахвотнікаў, як правіла, перавышае магчымасці УП "Жыллё". Факт — красамоўны.

**Алена РАМАНАВА.**

## Кубак уладальнікаў Кубкаў заваяваў "Універсітэт"

***Пэўны плён прынесла Віцебску шматгадовая работа па развіцці футзалы. У гэтым сезоне мясцовая каманда "Універсітэт" не толькі выйграла Кубак і чэмпіянат Беларусі, але і паспяхова выступіла на сусветнай арэне. У Іспаніі быў заваяваны першы для Прыдзвінскага краю еўрапейскі трафей — Кубак уладальнікаў Кубкаў.***

У Віцебску першыя крокі ў развіцці футзала былі зроблены ў 1994 годзе, калі ў Рэспубліцы Беларусь быў праведзены першы нацыянальны чэмпіянат. У ліку іншых у ім прыняла ўдзел і каманда "Pедінстытут — Лакаматыў". Яна паспяхова правяла ўвесь турнір, і віцябляне сталі першымі чэмпіёнамі. І толькі праз пяць гадоў — у 1999 г. — наступіў другі этап станаўлення каманды "Універсітэт", якая стартавала спачатку ў Кубку, а затым — у чэмпіянаце. Кубак жа паехаў на бераг Дзвіны, калі ў сістэматычным першынстве студэнты сталі другімі, уступіўшы толькі навалукомльскаму "Энергетыку".

Першым крокам на шляху ў Іспанію менавіта і стаў той поспех. Залаты дубль і атрымалі віцябляне ў цяперашнім футзальным сезоне — з лікам 4:1 адолелі спачатку канкурэнтаў з Новалукомля ў фінале Кубка краіны, а затым былі афіцыйна аб'яўлены чэмпіёнамі Беларусі. А Генадзь Сіткевіч і Андрэй Баранок па выніках сезона прызнаны лепшымі варатарам і нападаючым. Дарэчы, апошні таксама заняў другое месца сярод лепшых бамбардзіраў чэмпіянату — на яго рахунку 48 мячоў.

Перамогу ж студэнтаў у "залатым" сезоне забяспечвалі паўабаронцы — Вячаслаў Гнуцэнка, Сяргей Гілеў, Яўген Корбан, Дзмітрый Эйвазаў, Ігар Іваноў, Аляксандр Пагуляеў, Гела Бігвава, Андрэй Багдановіч, Вадзім Хлопцаў, нападаючыя — Сяргей Аўчарэнка, Андрэй Баранок, Міхаіл Барадаўка, варатары — Генадзь Сіткевіч, Дзмітрый Максімаў, Віталь Кавалёў.

Урачыстае віншаванне лідэраў чэмпіянату адбылося ў Віцебскім гарвыканкаме. Да каманды з цёплымі словамі ўдзячнасці звярнуліся віцэ-мэр Уладзімір Кічыгін, рэктар Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя Машэрава Аркадзь Русецкі, старшыня аблспортупраўлення Уладзімір Сінкавец. Каштоўныя падарункі — дываны, гадзіннікі, фотаапараты былі ўручаны шчаслівым уладальнікам Кубка. "На дасягнутым не спыняцца!" — заклікалі юнакоў усе прысутныя ў зале. І яны мелі рацыю — наперадзе ўдзельнікаў каманды чакаюць новыя сур'ёзныя выпрабаванні. Уладзімір Кічыгін паабяцаў за перамогу ў чарговым турніры падараваць камандзе аўтамабіль. Паўтарыць жа свой ранейшы поспех, вядома, будзе нялёгка — супраць пераможцаў усе звычайна гуляюць з падвоенай энергіяй. Віцябляне пра гэта ведаюць і памятаюць. І не толькі студэнты, але і студэнткі — у футзал у гэтым паўночным горадзе нашай краіны гуляюць не толькі мужчыны, але і прадстаўніцы цудоўнай паловы чалавецтва. У чэмпіянаце Беларусі прымае зноў удзел "Універсітэт", але з прыстаўкай "95".

Сярод жанчын турнір з'яўляецца адкрытым — узровень чэмпіянату павышае тое, што тут спаборнічаюць каманды з бліжэйшага замежжа. Віцяблянкі летась былі трэцімі, а сёлета — другімі, уступіўшы толькі масквічкам. У фінале адкрытага Кубка Беларусі па гэтым відзе спорту расіянкі зноў выйгралі ў студэнтак з горада на Дзвіне з лікам 3 : 1. Але нягледзячы на гэта "Універсітэт-95" з'яўляецца мацнейшай камандай нашай краіны. У яе ліку варатары Юлія Патапенка, Жанна Гаўрыленка, абаронцы Вікторыя Крылова, Алена Стах, Ірына Мікалаева, Настасся і Марына Лушчынскія, Марына Кузняцова, паўабаронцы Людміла Пятрачкова, Ганна Яблыкава, Марына Жулева, Наталля Верэнева, Наталля Юшкевіч, Ала Сяргеенка, Наталля Канашонак; нападаючыя Таццяна Сторажава, Кацярына Жукава, Таццяна Логінава, Алеся Фісенка, Галіна Станкевіч. Нельга не сказаць слоў удзячнасці, адзначаючы поспехі віцебскіх футзальных каманд — мужчынскай і жаночай — у адрас галоўнага трэнера Генадзя Пашкевіча, які зрабіў усё магчымае для дасягнення гэтых поспехаў, спачатку — працуючы ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце, а цяпер — у аблспортупраўленні. У дасягненні калектыву добры ўклад уносіць і рэктар Аркадзь Русецкі, які заўсёды аказвае сваім камандам пэўную дапамогу.

У вырашэнні розных праблем дапамагаюць віцебскім футзалістам абласное і гарадское спортупраўленні, якія ўзначальваюць Уладзімір Сінкавец і Пётр Аляксееў.

Можна спадзявацца, што пры садружнасці зацікаўленых бакоў поспех віцебскай футзале забяспечаны.

**Пётр ПАЛЕСКІ.**

## Дзяўчына ў камандзе мужчын

Асабліва вызначылася віцяблянка, майстар спорту, бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы 2000 года сярод юніёраў, удзельніца XXVII Алімпійскіх гульняў па цяжкай атлетыцы Ганна Бацюшка. Без асаблівых намаганняў у рыўку яна адолела першапачатковую вагу — 85 кг, пакарыла снарад у 90 кг і беспаспяхова штурмавала штангу ў 92,5 кг. Полька Клейноўска паказала такі ж вынік. Праўдстаўніца Кітая Чэн Гуопінг нязначна адстала ад лідэраў — 87,5 кг. У штуршку ўзяла Ганна толькі першапачатковую вагу — 102,5 кг., але і гэтага было дастаткова, каб узняцца на трэцюю ступеньку п'едэстала гонару, заваяваўшы "бронзу" (у Сіднеі ў яе было восьмае месца). Улічваючы юны ўзрост Ганны (19 год) — упаўне адпаведнае дасягненне для першага разу. На Алімпіядзе, дарэчы, яна была адзіная дзяўчына ў камандзе мужчын-цяжкаатлетаў.

На пытанне, ці задаволена яна дасягнутым у Сіднеі, адказала:

— Не зусім. Восьмае месца — гэта нядрэнна, але я магла заняць і шостае, і вышэй. На жаль, не дабрала каля двух кілаграмаў. З другога боку, прыбавіла ў штуршку: палепшыла свой вынік на афіцыйных турнірах на 5 кілаграмаў.

А ў чыста мужчынскім відзе спорту яна аказалася дзякуючы трэнеру Б.П.Кухарэнку. Ён яе заўважыў і прапанаваў паспрабаваць. Яна прыйшла ў залу, пазнаёмілася. А калі адправілася на трэніроўку ў першы раз, нават не ведала, што гэта за від спорту, ніколі пра яго не чула.

Дэбютавала ў 12 год — аб дасягнутых ёю выніках адзначалася вышэй. Ганна Бацюшка зазначыла, што гэты від спорту павінен развівацца ў нашай краіне, як развіваецца ва ўсім свеце. Так што ёсць шанс, што на наступных Гульнях яна будзе не адзінай прадстаўніцай цяжкай атлетыкі на Беларусі.

## Спартакіяда фінішавала

У фінальных спаборніцтвах чарговай Спартакіяды Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, якія праводзіліся па 34 відах спорту, удзельнічалі 3441 чалавек. Асабліва арганізавана і масава прайшлі спаборніцтвы па плаванні, лёгкай атлетыцы, спартыўных гульнях, відах адзінаборстваў і турызму.

Спартыўным клубам гэтай ВНУ, які ўзначальвае вопытны кіраўнік і ўмелы, ініцыятыўны арганізатар Аляксандр Анціпін, падведзены папярэднія вынікі Спартакіяды сярод каманд факультэтаў і інтэрнатаў. Згодна з набранымі заліковымі ачкамі, табліцу агульнакаманднага першынства ўзначаліў аўтатрактарны факультэт, які выйграў у будаўнікоў і машынабудаўнікоў.

Сярод каманд інтэрнатаў лідзіруе інтэрнат № 12, якому ўступілі адпаведна інтэрнаты №№ 15 і 6.

Як вядома, Прэзідэнтам і Урадам краіны гэты год аб'яўлены годам здаровага ладу жыцця. У сувязі з гэтым у аглядзе-конкурсе на лепшую пастаноўку спартыўнай і фізкультурна-аздараўленчай работы паміж факультэтамі і іншымі падраздзяленнямі па пытаннях умацавання здароўя сярод выкладчыкаў і студэнтаў правядзенню спартыўна-масавых мерапрыемстваў у БДПА ўдзяляецца першаступеннае значэнне.

Канчатковыя вынікі агляду-конкурсу будуць падведзены потым — у новым вучэбным годзе.

## У атмасферы цеплыні і сяброўства

***Ужо звыш дзесяці гадоў на базе Рэспубліканскага цэнтра дзіцячага і юнацкага турызму і экскурсій арганізоўваюцца летнікі па адпачынку дзяцей. З 1996 года сюды з'язджаюцца лепшыя ўдзельнікі гурткоў краязнаўча-турысцкага зместу, а таксама — хлопчыкі і дзяўчынкі, якія прымаюць дзейны ўдзел у стварэнні музеяў і выстаў мясцовага значэння.***

Асноўная мэта летніка — гэта не толькі аздараўленне дзяцей, але і правядзенне выхаваўчых мерапрыемстваў, яркія адбываюцца пад кіраўніцтвам высокакваліфікаваных педагогаў і экскурсаводаў — яны шмат цікавага апавядаюць пра адметныя мясціны нашай сталіцы.

Усяго адпачыла 100 чалавек, для якіх былі створаны выдатныя ўмовы. Дзеці жылі ў пакоях па 4-8 чалавек, харчаваліся тры разы ў дзень у сталоўцы БДУ. Па тэрытарыяльнай прыкмеце былі сфарміраваны чатыры атрады. Адпачынак у кожным з іх ладзіўся па адпаведнай праграме, былі праведзены тры аўтобусныя экскурсіі, дзеці пазнаёміліся з гарадскімі музеямі і сталічнымі тэатрамі.

Асаблівая ўвага надавалася і пешым экскурсіям, дзякуючы якім удзельнікі летніка пабывалі ў парках імя М.Горкага і імя Чалюскінцаў, на Камсамольскім возеры і ў Мінскім метрапалітэне, у Чырвоным Касцёле святых Сымона і Алены, у Курапатах, у Лошыцкім парку, на Маскоўскіх могілках і ў многіх іншых мясцінах.

Праводзілася азнаямленне дзяцей з рознымі пазашкольнымі ўстановамі. У іх ліку — Палац моладзі і Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў.

Дзеці пабывалі таксама ў Раўбічах і ў музеі "Менка" пад адкрытым небам.

У вячэрні час арганізоўваліся розныя цікавыя гульні, забаўляльная спартландыя, дыскатэкі, конкурсы "Казка на новы лад". У інсцэніроўках казак, краязнаўчых апавяданнях жанры і творчыя магчымасці не абмяжоўваліся. З вялікім захапленнем удзельнічалі дзеці ў конкурсах малюнкаў. Адбываліся сустрэчы і вечарыны з творчымі людзьмі.

Так, напрыклад, паспяхова прайшоў вечар гітарнай музыкі, на якім вядучы цікава расказаў пра гісторыю і канструкцыю гітары. Вечарына прынесла карысць: нават тыя, хто ніколі не браў у рукі гэты інструмент, атрымалі першыя навыкі ігры на ім. А потым гучалі песні: творы Грабеншчыкова, гуртоў "Кіно", "Машына часу", "Наўціліус Пампіліус". Асноўным жа "цвіком" праграмы стала ігра на гітары пры дапамозе запальнічкі.

Вечар, як, зрэшты, і ўсе папярэднія мерапрыемствы ў летніку, адбыўся ў цудоўнай атмасферы — цеплыні і сяброўства.

**Наталля РАМАНКЕВІЧ, Таццяна АНІСІМАВА,**
**студэнткі IV курса факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя М.Танка.**

## Тэхнічным відам спорту патрабуецца дапамога

***Традыцыйна штогод Рэспубліканскім цэнтрам тэхнічнай творчасці навучэнцаў праводзяцца спаборніцтвы сярод вучняў па васьмі відах спорту: трасавым мадэлізме, авіямадэльным, ракетамадэльным, суднамадэльным, картынгу, аўтамадэльным (кордавыя і радыёкіруемыя мадэлі), радыёспорту. Сёлета праведзены VII Рэспубліканскія спаборніцтвы навучэнцаў. Мэтамі і задачамі іх з'яўляліся патрыятычнае выхаванне, выяўленне мацнейшых спартсменаў для камплектавання зборных каманд рэспублікі, папулярызацыі тэхнічных відаў спорту, падвядзення вынікаў работы спартыўна-тэхнічных гурткоў, секцый і іншых аб'яднанняў вучэбных установ пазашкольнага выхавання сістэмы адукацыі.***

У спаборніцтвах прымалі ўдзел каманды з усіх абласцей нашай краіны. Так, напрыклад, па картынгу яны праходзілі ў спартыўным цэнтральным корпусе "Вікторыя". У іх лідзіравала Гомельская вобласць, якая выйграла ў каманд Мінска і Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў.

Дарэчы, картынг карыстаецца вялікім попытам сярод навучэнцаў, але, на жаль, ён усё больш становіцца элітным відам, паколькі патрабуе значных фінансавых сродкаў.

Спаборніцтвы па аўтамадэльнаму спорту (кордавыя мадэлі) праходзілі ў Калінкавічах.

Пераможцам аказаўся Рэспубліканскі цэнтр тэхнічнай творчасці навучэнцаў — 1200 балаў. Са значным адрывам яму ўступілі гамяльчане і брэстаўчане, якія атрымалі адпаведна па 850 і 769 балаў.

У спаборніцтвах па радыёспорту перамаглі мінчане. На другім месцы былі вучні Брэсцкай вобласці і на трэцім — навучэнцы Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці.

Але апошнія першынствавалі ў паядынку па аўтамадэльнаму спорту (радыёкіруемыя мадэлі), які адбыўся ў Бабруйску. Другімі былі вучні з Гомеля і трэцімі — з Магілёва.

Як зазначыла загадчык спартыўна-тэхнічнага аддзела Рэспубліканскага цэнтра тэхнічнай творчасці навучэнцаў Наталля Альхімовіч, у гэтым годзе назіралася павышэнне цікавасці да тэхнічных відаў спорту. Дзякуючы гэтаму ў некаторых рэгіёнах былі дасягнуты больш высокія вынікі. Так, напрыклад, Мінская вобласць у суднамадэльным спорце ўзнялася з апошніх месцаў на чацвёртае. Аднак па-ранейшаму ёсць цяжкасці па фінансавым забеспячэнні каманд. З гэтай прычыны не ўсе яны маюць магчымасць удзельнічаць у спаборніцтве. Тым не менш энтузіязм, адданасць сваёй справе садзейнічаюць папулярызацыі тэхнічных відаў спорту. Невыпадкова многія юнакі са сваімі мадэлямі выступілі за межамі нашай рэспублікі, у тым ліку ў Чэхіі і Польшчы. А Іван Цілынаў стаў чэмпіёнам Еўропы 2000 года і перамог у гэтым годзе ў рэспубліканскіх спаборніцтвах.

**Наталля ГРЫНКЕВІЧ.**



## Загараюцца зоркі ў біятлоне

Вольга Цецярук неўзабаве скончыць школу. Апошнія гады яна пачала сур'ёзна займацца біятлонам і зараз з'яўляцца кандыдатам у майстры спорту.

А ці лёгка ж гэта? Лічыце самі: акрамя агульнафізічнай і стралковай падрыхтоўкі штогод гэта яшчэ прыкладна тысяча кіламетраў на лыжах і больш за шэсцьсот кіламетраў кросу. Але ўсё гэта робіцца не дарэмна — сёлета на Кубку рэспублікі па біятлону сярод юнакоў яна заняла прызавое трэцяе месца.

Дасягнуць станоўчых вынікаў ёй дапамагае трэнер, а таксама яе бацька Анатоль Сямёнавіч Цецярук. Вольга — не адзіная "зорка" ў секцыі біятлону Наваградскай ДЮСШ. Яе выхаванцы добра вядомыя ў краіне. Некаторыя з іх увайшлі ў склад нашай зборнай, прымаюць удзел у рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах.

**Юрый БОНДАРАЎ.**

НА ЗДЫМКУ: Воля і Анатоль Сямёнавіч Цецярукі.

## Узнагарода самай юнай

Матчы з удзелам суперзорак могуць прыцягнуць, вядома, найбольшую ўвагу прыхільнікаў шахмат. І, безумоўна, нікога не пакінуць раўнадушнымі партыі з удзелам Анатолія Карпава, Гары Каспарава, Уладзіміра Крамніка і іншых знакамітых шахматыстаў. Але варта зазначыць, што адначасова зоркам лепш павышаць сваё спартыўнае майстэрства ў кампаніі зорачак падрастаючых — рэкі ж пачынаюцца з ручайкоў.

У мінскай шахматна-шашачнай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву № 1 упраўлення адукацыі сталіцы, вядомай на ўвесь спартыўны свет, адбыўся турнір па шахматах з удзелам прыхільнікаў гэтага віду спорту з усіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь. За права быць мацнейшымі спаборнічалі паміж сабой міжнародныя і нацыянальныя майстры спорту, кандыдаты і першаразраднікі. Вялася і агульная турнірная табліца. Вынікі падводзіліся ў кожнай узроставай групе.

Лідзіраваў мінчанін, кандыдат у майстры спорту Андрэй Жыгалка, які ў агульным турніры набраў 8 ачкоў з 9 магчымых. І невыпадкова. Андрэй з'яўляецца чэмпіёнам нашай краіны сярод 16-гадовых шахматыстаў. У гэтым жа турніры ў яго быў найвышэйшы рэйтынг — 2400. На 0,5 ачка адстаў ад яго Дзмітрый Палякоў, заняўшы ў пратаколе другі радок зверху, і трэці — Раман Лаўрэцкі — 7 ачкоў. Абодва яны — кандыдаты ў майстры спорту.

Малодшы брат, пераможца турніру, Сяргей аказаўся на пятым месцы, хаця ён ад трэцяга прызёра адстаў толькі на паўачка — 6,5. Дарэчы, ён з'яўляецца чэмпіёнам Беларусі сярод хлопчыкаў 12 — 14 год. Каментарыі, як кажуць, не патрэбны. Варта зазначыць, што дыпломы і грашовыя прызы заваявалі пераможцы і прызёры кожнай узроставай групы. Самая юная 7-гадовая Ланіта Стэцко ўдастоена спецыяльнай узнагароды. А норму кандыдата ў майстры спорту выканаў самы старэйшы ўдзельнік — 67-гадовы Сяргей Пятровіч Каваленка. "Лепшаму ветэрану" — такога прыза ён быў удастоены за пэўнае спартыўнае майстэрства.

## На любы густ

Не першы год дзейнічае ў Пухавіцкім раёне ваенна-патрыятычны летнік "Абаронца", дзе праходзяць аздараўленне юнакі 14 — 17 гадоў. Яны, акрамя адпачынку, на працягу 24-дзённай змены атрымліваюць спецыяльныя навыкі для службы ў арміі.

Напружаная праграма летніка становіцца сапраўдным выпрабаваннем іх сіл і характараў, паколькі ў цэнтры ўвагі знаходзіцца дысцыпліна. Пасля кожнай змены дамоў вяртаюцца ўзмужнелыя і ўпэўненыя ў сабе хлопцы — гэта значыць "Абаронца" апраўдвае сваю назву.

Экалагічны летнік добраахвотнай працы моладзі "Адраджэнне" таксама карыстаецца вялікай папулярнасцю. Яго ўдзельнікамі з'яўляюцца 50 чалавек з 28 рэгіёнаў Мінскай вобласці. Сярод іх і вучні школ Стаўбцоўскага раёна.

Акрамя добраўпарадкавання тэрыторыі юнакі займаюцца культурна-асветніцкай дзейнасцю і спартыўна-масавай работай.

У раёнах Міншчыны наогул было арганізавана мноства летнікаў рознай накіраванасці — валанцёрскія, спартыўна-патрыятычныя, экалагічныя, абаронна-спартыўныя і інш.

**Пётр ШУБЯНОК.**

# Чэмпіёнамі становяцца студэнты




*У чэрвені 1937 года газета "Красный спорт", расказваючы пра Усесаюзны фізкультурны парад на Чырвонай плошчы Масквы, пісала: "Найбольшы поспех з усіх нацыянальных дэлегацый выпаў на долю беларусаў. Яны паказалі зладжанае, вельмі добра падрыхтаванае і ад пачатку да канца прадуманае відовішча". Высокую ацэнку выступленню пасланцоў з Беларусі далі і іншыя газеты. Так, "Комсомольская правда" ад 23 ліпеня таго ж года адзначыла: "Калі закончыўся парад фізкультурнікаў на Чырвонай плошчы, усе, хто прысутнічаў на трыбунах, сышліся на тым, што адно з самых лепшых, запамінальных выступленняў належыць фізкультурнікам Беларускай рэспублікі. У парадзе ўдзельнічала 250 студэнтаў Беларускага тэхнікума фізічнай культуры". Гэты поспех не быў выпадковым. Ён з'явіўся вынікам вялікай і напружанай працы ўсёй фізкультурнай арганізацыі рэспублікі. Пасля цудоўнага выступлення на Усесаюзным фізкультурным парадзе на Чырвонай плошчы Беларускі дзяржаўны тэхнікум фізічнай культуры быў адзначаны ЦВК СССР. У яго пастанове "Аб узнагароджанні добраахвотных спартыўных таварыстваў, работнікаў і майстроў фізічнай культуры" ("Известия", 1937, 28 ліпеня) указвалася:*

*"За ўзорную пастаноўку справы падрыхтоўкі кадраў фізічнай культуры і за высокія спартыўна-фізкультурныя дасягненні ўзнагародзіць ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга Беларускі тэхнікум фізічнай культуры.*

*Рэарганізаваць Беларускі тэхнікум фізічнай культуры ў Інстытут фізічнай культуры Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.*

**М.КАЛІНІН, старшыня ЦВК СССР**

**А.ГОРКІН, сакратар ЦВК СССР**

*Масква, Крэмль, 22 ліпеня 1937г."*

Пад кіраўніцтвам першага дырэктара інстытута М.Скупава 1 лістапада 1937 года ў новай ВНУ пачаліся вучэбныя заняткі. Спачатку яны праходзілі ў старым памяшканні тэхнікума па вул.Валадарскага, а ў жніўні 1939 года інстытут быў пераведзены у новы корпус па вул.Пушкіна (цяпер праспект Ф.Скарыны, 49).

Да 1941 года ў Беларускім дзяржаўным інстытуце фізічнай культуры былі падрыхтаваны 102 спецыялісты па фізічнай культуры і спорту. Другая сусветная вайна перапыніла вучобу. У час Вялікай Айчыннай вайны на розных франтах адважна змагаліся каля двухсот выкладчыкаў і студэнтаў інстытута.

Адразу ж пасля вызвалення Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў з 1 кастрычніка 1944 г. аднавілася работа інстытута. Пераважна сіламі выкладчыкаў і студэнтаў уводзілі ў строй памяшканні і спартыўныя аб'екты. У наступныя гады Беларускі дзяржаўны інстытут фізічнай культуры значна пашырыў сваю вучэбна-вытворчую базу. Былі пабудаваны новыя інтэрнаты, басейн, стадыён, спартыўныя базы, а ў 1983 годзе — новы вучэбны корпус на праспекце П.М.Машэрава. Для спартыўных заняткаў і адпачынку студэнтаў і супрацоўнікаў акадэміі ёсць лёгкаатлетычныя стадыёны, гімнастычныя і гульневыя залы, басейн, футбольныя палі, корты, пляцоўкі, студэнцкія гасцініцы, а таксама спартыўна-аздараўленчы летнік на возеры Дрывята — ў адным з найпрыгажэйшых месц Беларусі на Браслаўшчыне.

На базе Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга інстытута фізічнай культуры створана Беларуская дзяржаўная Акадэмія фізічнай культуры і спорту Рэспублікі Беларусь, якая заўсёды была і цяпер з'яўляецца вядучай навукова-метадычнай і фізкультурна-спартыўнай установай. Яна — галоўны вучэбна-метадычны цэнтр, на базе якога праводзіліся міжнародныя, усесаюзныя, рэспубліканскія і занальныя мерапрыемствы па праблемах фізічнай культуры і спорту (нарады, канферэнцыі, семінары, сімпозіумы, конкурсы, выставы і інш).

На працягу пяці гадоў вучобы (на факультэце завочнага навучання — шасці) студэнты атрымліваюць пэўны аб'ём ведаў па спецыяльных сацыяльна-эканамічных, агульнанавуковых і агульнаадукацыйных, а таксама гуманітарных дысцыплінах, наведваюць факультатывы, рыхтуюць і абараняюць курсавыя і дыпломныя работы, праходзяць вучэбную педагагічную практыку ў школе і па спецыялізацыі ў ДЮСШ, у паліклініках і бальніцах, выступаюць са справаздачамі на навуковых канферэнцыях. Усяго ў АФК навучаюцца больш за тры тысячы студэнтаў па спецыялізацыях: коннага, веславальнага, канькабежнага, стралковага, веласіпеднага, лыжнага спорту, а таксама па лёгкай атлетыцы, гімнастыцы, фігурным катанні, плаванні, усіх відах барацьбы, цяжкай атлетыцы, боксу, фехтаванні, рукапашным баі, спартыўных гульнях, менеджменту, спорту і турызму, фізічнай рэабілітацыі, лячэбнай фізічнай культуры, дашкольным фізічным выхаванні, арганізацыі фізкультурна-аздараўленчай работы і турызму.

З 2 чэрвеня 1965г. у Акадэміі фізічнай культуры і спорту працуе аспірантура, з 14 лістапада 1986 года — спецыялізаваны савет па прысуджэнні вучонай ступені кандыдата педагагічных навук, а з 17 чэрвеня 1992 года — доктара педагагічных навук. Больш за 70 працэнтаў работнікаў з вышэйшай адукацыяй па фізічнай культуры і спорту ў Беларусі — выпускнікі АФК (БДІФК).

З 1937 па 2000 год у сценах навучальнай установы падрыхтавана больш за 20 тысяч спецыялістаў, 16 з якіх сталі дактарамі навук, прафесарамі, больш як 160 — кандыдатамі навук і дацэнтамі. За выдатную работу сотням выпускнікоў прысвоены званні "Заслужанага трэнера БССР" (і СССР, а таксама Рэспублікі Беларусь), "Заслужанага дзеяча фізічнай культуры" і іншыя.

Пад іх непасрэдным кіраўніцтвам студэнты і выпускнікі акадэміі ўнеслі вялікі ўклад у дасягненні беларускага спорту на Алімпійскіх гульнях і многіх буйнейшых міжнародных спаборніцтвах. За 47 гадоў (з 1952 па 1999) на Алімпійскіх гульнях яны заваявалі 80 медалёў, у тым ліку 43 залатыя, і каля 200 разоў станавіліся чэмпіёнамі Еўропы і свету. Сярод выхаванцаў АФК (БДІФК) — шматразовыя чэмпіёны алімпіяд: Алена Бялова, Аляксандр Мядзведзь, Віктар Сідзяк, Віталь Шчэрба, Уладзімір Парфяновіч, Святлана Багінская і многія іншыя. На Алімпійскіх гульнях 1996 г. у Атланце (ЗША) удзельнічаў 21 студэнт акадэміі, а ў сіднейскай алімпіядзе-2000 — каля 30.

Важным раздзелам дзейнасці ВНУ з'яўляецца навукова-даследчая работа па праблемах фізічнага выхавання і спорту. За 53 гады (з 1946 па 1999 гг.) выкладчыкамі і супрацоўнікамі БДАФК (БДІФК) апублікавана больш як восем тысяч навуковых, вучэбных і метадычных работ, у тым ліку больш як 400 падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. У акадэміі налічваецца 245 штатных работнікаў (з іх больш паловы мае вучоныя ступені і званні), якія навучаюць звыш трох тысяч студэнтаў, аспірантаў і прадстаўнікоў шэрагу замежных краін. Многія са студэнтаў таксама займаюцца навукова-даследчай работай. Больш як 50 з іх — лаўрэаты агульнадзяржаўных і міжнародных студэнцкіх навуковых конкурсаў.

Праведзена вялікая праца па падрыхтоўцы, рэцэнзаванні і апублікаванні тыпавых вучэбных праграм па дысцыплінах фізкультурна-спартыўнага профілю.

У рамках статуса асноўнага навукова-педагагічнага цэнтра фізкультурна-спартыўнай адукацыі БДАФК Рэспублікі Беларусь развівае асноўныя напрамкі ў сістэме навукова-метадычнага забеспячэння фізкультурна-спартыўнай адукацыі, падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі навукова-педагагічных кадраў.

Такім чынам, абапіраючыся больш чым на 60-гадовыя традыцыі і дасягненні, прафесарска-выкладчыцкі склад і супрацоўнікі БДАФК Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам рэктара М.Я.Кобрынскага вядуць далейшае выхаванне спецыялістаў. Спецыялістаў на сучасным узроўні.

**Яўген ІВАНЧАНКА,**
**першы прарэктар Акадэміі фізічнай культуры і спорту, доктар педагагічных навук, прафесар, заслужаны трэнер СССР і Рэспублікі Беларусь.**

**М.КОБРЫНСКІ, прэзідэнт АА "Беларуская алімпійская акадэмія", рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі фізічнай культуры.**
**А.КАКАШЫНСКІ, выканаўчы дырэктар АА "Беларуская алімпійская акадэмія".**

# Арганізацыя алімпійскай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь

***Беларуская алімпійская акадэмія створана грамадзянамі нашай рэспублікі ў форме грамадскай арганізацыі з мэтай прапаганды і распаўсюджвання ідэалаў і прынцыпаў алімпізму, развіцця алімпійскай адукацыі на Беларусі. У 2000 годзе Беларуская алімпійская акадэмія была перарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь, што дало магчымасць уступіць у цесныя адносіны з міжнароднымі спартыўнымі арганізацыямі на правах структуры алімпійскага руху. Каардынуе дзейнасць Беларускай алімпійскай акадэміі і дапамагае ёй у рабоце Нацыянальны алімпійскі камітэт Рэспублікі Беларусь.***

Міжнародны алімпійскі рух накіраваны на вырашэнне дзвюх галоўных задач: правядзенне Алімпійскіх Гульняў і распаўсюджванне ідэалаў і прынцыпаў алімпізму праз арганізацыю сусветнай алімпійскай адукацыі. Калі Алімпійскія Гульні ўжо сталі аб'ектыўнай рэальнасцю для ўсяго чалавецтва, то алімпійскі рух толькі набірае свае абароты.

У Расіі, на Украіне, у краінах Прыбалтыкі нацыянальныя алімпійскія акадэміі, створаныя на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, актыўна ўключыліся ў адукацыйныя праграмы Міжнароднага алімпійскага камітэта і Міжнароднай алімпійскай акадэміі. Сёння яны занялі належнае месца ў сусветным алімпійскім руху, стварыўшы свае сістэмы і мадэлі алімпійскага адукацыйнага працэсу, накіраванага на маладую частку насельніцтва сваіх краін.

Для беларускіх грамадзян сфера алімпійскай адукацыі пакуль з'яўляецца адносна новай, можна сказаць, невядомай, таму што многія гады Беларусь з прычыны шэрагу аб'ектыўных абставін была практычна адарвана ад работы Міжнароднай алімпійскай акадэміі (МАА), ад актыўнай дзейнасці камісій Міжнароднага алімпійскага камітэта, якія вялі работу ў гэтым накірунку. Толькі з атрыманнем дзяржаўнай незалежнасці мы займелі рэальную магчымасць прамога доступу да алімпійскай ідэі, да надзвычай багатай алімпійскай педагагічнай спадчыны.

Пытанне арганізацыі алімпійскай адукацыі на Беларусі актыўна абмяркоўваецца на самым высокім узроўні, што стварае рэальныя перадумовы для ўключэння яе ў агульную сістэму рэспубліканскай адукацыі. У вучылішчах алімпійскага рэзерву, на спартыўных факультэтах ВНУ вывучэнню алімпійскіх ідэалаў і прынцыпаў удзяляецца пэўная ўвага, аднак, як паказвае практыка, да такой дысцыпліны пакуль няма сур'ёзнага стаўлення. Галоўнае, адсутнічае адзіная метадалогія, якая дзейнічала б у рамках усёй сістэмы. Акрамя таго, алімпійская адукацыя накіравана не толькі на спартыўную сферу. Яе задачы больш шырокія: яна павінна ахопліваць самыя шырокія слаі маладога насельніцтва.

Сёння, калі моладзь нашай рэспублікі адчувае недахоп у жыццёвых ідэалах, калі вышэйшым кіраўніцтвам краіны на парадак дня выносіцца пытанне здароўя нацыі, наспела рэальная неабходнасць узяць усё карыснае з гуманістычнай алімпійскай філасофіі і перадаць падрастаючаму пакаленню, запаўняючы тым самым існуючы ідэалагічны вакуум. Як паказвае шматгадовы вопыт работы міжнародных алімпійскіх арганізацый, нацыянальных алімпійскіх камітэтаў і алімпійскіх акадэмій, алімпійская адукацыя здольная паспяхова вырашаць праблемы выхавання і адукацыі моладзі, маладых лідэраў, маладых вучоных.

Каб распачаць гэты працэс, неабходна самая сур'ёзная ўвага да яго і максімум намаганняў з боку кіраўнікоў устаноў адукацыі, рэгіянальных органаў улады і кіравання, грамадскіх арганізацый, міністэрстваў і ведамстваў.

Першым крокам, які неабходна зрабіць у 2001-2002 навучальным годзе, стане стварэнне адзінай сістэмы алімпійскай адукацыі, якая павінна гарманічна ўпісацца ў існуючую сістэму адукацыі і выхавання. Шмат будзе залежаць ад актыўнай работы галоўнага каардынуючага цэнтра — Беларускай алімпійскай акадэміі, якая павінна падтрымліваць непарыўную сувязь з Міністэрствам адукацыі, Міністэрствам спорту і турызму, арганізацыямі Міжнароднага алімпійскага руху. Прааналізаваўшы ўсё, што назапашана за мінулыя гады, сістэматызаваўшы каласальны патэнцыял, які за стагоддзе напрацаваны Міжнародным алімпійскім камітэтам, Міжнароднай алімпійскай акадэміяй, мы імкнемся стварыць добра адладжаны механізм алімпійскай адукацыі рэспубліканскага ўзроўню.

Ужо цяпер Беларуская алімпійская акадэмія вядзе актыўную работу па распрацоўцы праекта стварэння такой сістэмы і імкліва заваёўвае аўтарытэт сярод людзей, якія актыўна цікавяцца праблемамі алімпізму і алімпійскай адукацыі.

Рэспубліканская сістэма алімпійскай адукацыі ставіць перад сабой наступныя мэты: ахапіць самыя шырокія слаі моладзі, захапіць іх алімпійскай ідэяй, дапамагчы маладым людзям праз вывучэнне алімпійскіх прынцыпаў і ідэалаў набыць шырокі асобасны патэнцыял, стаць годнымі членамі нашага грамадства, здольнымі дабівацца як спартыўных перамог і рэкордаў, так і прымаць актыўны ўдзел у вырашэнні грамадскіх і дзяржаўных праблем. Стратэгічная мэта праекта — фарміраванне ў моладзі светапогляду, заснаванага на гуманістычных прынцыпах алімпійскай філасофіі, такіх, як роўнасць, справядлівасць, мэтанакіраванасць, вера ў свае сілы і інш.

Для дасягнення мэт праекта мы запрашаем усіх зацікаўленых асоб, навукоўцаў, выкладчыкаў, трэнераў да вырашэння такіх задач, як:

1) распрацоўка навуковай канцэпцыі і праектнай дакументацыі па стварэнні і функцыянаванні сістэмы алімпійскай адукацыі ў агульнай сістэме рэспубліканскай адукацыі;

2) распрацоўка вучэбных планаў па алімпійскай адукацыі на чатырох узроўнях — у сярэдняй школе, у сярэдніх спецыяльных навучальных установах, у вышэйшых навучальных установах, у аспірантуры;

3) распрацоўка і выданне алімпійскіх падручнікаў;

4) адкрыццё алімпійскіх школ, якія будуць дзейнічаць у праграмах алімпійскай адукацыі;

5) фарміраванне алімпійскай бібліятэкі, алімпійскіх архіваў;

6) публікацыя рэфератаў і артыкулаў па алімпійскай праблематыцы ў навукова-тэарэтычным часопісе "Свет спорту";

7) правядзенне навуковых канферэнцый, семінараў і конкурсаў па праблемах алімпізму і алімпійскай адукацыі.

Выкананне пастаўленых задач будуць забяспечваць часовыя навуковыя калектывы, якія складаюцца з высокакваліфікаваных педагогаў, спецыялістаў-практыкаў, вучоных. Галоўным вынікам праекта павінна стаць стварэнне і функцыянаванне рэспубліканскай сістэмы алімпійскай адукацыі.

Праект носіць маштабны фундаментальны характар, разлічаны на доўгатэрміновую перспектыву. Яго галоўнай мэтай з'яўляецца стварэнне асобай ідэалагічнай базы, якая будзе аказваць уплыў на фарміраванне асобы. Таму практычныя вынікі ад яго ўкаранення сёння вызначыць дастаткова складана. Тым не менш вынікі праекта будуць выяўляцца на аснове пастаяннага маніторынгу, які будзе праводзіцца шляхам анкетавання, апытанняў і справаздач як у ходзе развіцця самога праекта, так і ў ходзе далейшага развіцця створанай сістэмы. Для гэтага будзе распрацавана група ацэначных (колькасна-якасных) паказчыкаў, звесткі пра якія будуць збірацца на месцах (у школах, ВНУ і г.д.) і якія змогуць дастаткова дакладна адлюстроўваць агульную карціну развіцця праекта і работы створанай сістэмы. Напрыканцы мы павінны будзем ацаніць якасныя змены, якія ўзніклі ў выніку функцыянавання сістэмы, таму развіццё праекта павінна пачынацца з глыбокага вывучэння алімпійскай спадчыны і стварэння навукова абгрунтаванай метадалогіі.

Абапіраючыся на вопыт замежных краін, у тым ліку Расіі і Украіны, можна з упэўненасцю сказаць, што праект дазволіць маладым людзям нашай краіны не толькі ўзбагаціць свае веды пра навакольны свет, але і атрымаць ідэалагічна ўстойлівы асобасны базіс для далейшай жыццядзейнасці. У першую чаргу гэта датычыць выбару жыццёвых арыенціраў, прынцыпаў і ідэалаў, галоўнымі з якіх з'яўляюцца здаровы лад жыцця, чалавечая годнасць, гармонія цела і духу, воля і імкненне да перамогі і дасканаласці — усё тое, што прапагандуе алімпійская адукацыя.

**Мадэль адзінай рэспубліканскай сістэмы алімпійскай адукацыі**




Схема 1.

Спартыўная панарама

## Праходзіць Універсіяда

З 22 жніўня па 5 верасня 2001 года адну з самых прыгожых сталіц свету — Пекін наведаюць госці больш як з 200 краін.

Дарэчы, Пекіну ў гэтым годзе пашанцавала двойчы. Па-першае, у ім пройдзе Сусветная летняя Універсіяда, па-другое, ён абраны сталіцай Алімпійскіх гульняў 2008 года.

Сёлетняя Універсіяда традыцыйна з'яўляецца адным з асноўных этапаў у падрыхтоўцы да зімовых Алімпійскіх гульняў у Солт-Лейк-Сіці 2002 г. і летніх у Афінах — 2004 г. і пройдзе пад непасрэдным кіраўніцтвам Міжнароднага Алімпійскага камітэта, які быў абраны ў ліпені гэтага года ў Маскве.

Усяго ва Універсіядзе прымае ўдзел звыш шасці тысяч спартсменаў, узрост якіх не перавышае 27 гадоў. Рэспубліка Беларусь будзе прадстаўлена ў сямі відах спорту: плаванні, спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, дзюдо, лёгкай атлетыцы, фехтаванні, настольным тэнісе. Асноўныя мэты і задачы, якія ставяць беларускія спартсмены і трэнеры — гэта паспяховае выступленне на Сусветных студэнцкіх гульнях. У сувязі з гэтым своечасова праводзілася актыўная, дзейсная падрыхтоўка да спаборніцтваў. Таму лета для іх і для работнікаў Рэспубліканскага цэнтра фізічнай культуры і спорту навучэнцаў і студэнтаў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь было не менш напружаным, як і зіма (Універсіяда ў Польшчы). І невыпадкова: 60 удзельнікам Універсіяды, многія з якіх неаднаразова перамагалі на рэспубліканскіх і міжнародных спаборніцтвах (дарэчы, сёлета на Міжнароднай Універсіядзе ў Закапанэ нашымі студэнтамі-спартсменамі заваяваны адна залатая, чатыры сярэбраныя і чатыры бронзавыя медалі), выпаў гонар прадстаўляць нашу краіну ў сталіцы Кітая — Пекіне (32 з іх з'яўляюцца майстрамі спорту міжнароднага класа).

Пажадаем жа нашым спартсменам паспяховага выступлення!

**Наталля РАМАНКЕВІЧ,**
**студэнтка IV курса БДПУ імя М.Танка.**

## Перамаглі мацнейшыя

Спартакіяда ў Беларускім дзяржаўным універсітэце сярод студэнтаў традыцыйна праходзіць у два этапы. Яшчэ ў пачатку першага вучэбнага семестра ўсё пачынаецца з таго, што ў інтэрнатах БДУ праводзяцца спаборніцтвы па розных відах спорту.

У гэтым годзе на аснове праграмы Спартакіяды яны адбываліся па настольнаму тэнісу, шахматах, міні-футболу, гіраваму спорту, перацягванні каната, баскетболу, плаванні, спартыўнаму арыентаванню і більярду. З пераможцаў першынства фарміруюцца каманды, якія прадстаўляюць іх на другім этапе спаборніцтваў. Перамагаюць мацнейшыя.

Так, лідэрам усёй Спартакіяды студэнцкага гарадка стала каманда інтэрната № 4, які лідзіраваў па міні-футболу, гіраваму спорту і перацягванні каната. Па настольнаму тэнісу, баскетболу, плаванні перамог інтэрнат № 7, па шахматах і більярду выйгралі студэнты з інтэрната № 6, а па спартыўнаму арыентаванню лепшым быў інтэрнат № 10.

Пры падвядзенні вынікаў пераможцам уручаны Кубкі і граматы, наладжаны канцэрт мастацкай самадзейнасці.

## Для інтэлектуалаў — "Лясны гарадок"

Для дзяцей, якія захапляюцца інтэлектуальнымі гульнямі, працуе Рэспубліканскі профільны летнік. Нацыянальны цэнтр творчасці дзяцей і моладзі сумесна з грамадскім аб'яднаннем "Беларуская ліга інтэлектуальных каманд" з'яўляюцца яго арганізатарамі.

Стала ўжо традыцыйным правядзенне адпачынку на базе аздараўленчага летніка "Лясны гарадок", што ў Вілейскім раёне.

Правядзенне гульняў "Што? Дзе? Калі?", брэйн-рынгу, "Сваёй гульні", а таксама аўтарскіх праграм Гомельскай, Магілёўскай і Брэсцкай абласцей — у праграме змены інтэлектуалаў. Да таго ж, згодна з планам культурна-масавых мерапрыемстваў, адбываюцца рыцарскія турніры, конкурс "Міс Інтэлект", КВЗ, а Дню турызму прысвячаюцца спартыўна-турыстычныя эстафеты.

## "Ад сэрца да сэрца"

На свой традыцыйны летні Міжнародны збор, які праходзіць у самым апошнім месяцы лета ў Ліпецку, піянерскія арганізацыі Беларусі, Расіі і Украіны з'ехаліся ў пяты раз.

Сёлета да ініцыятараў і натхняльнікаў злёту далучыліся яшчэ і піянеры з Казахстана. Гэта значыць, геаграфія пашырылася.

На зборы падводзяцца, перш за ўсё, вынікі акцыі, прысвечанай Вялікай Айчыннай вайне, "Ад сэрца да сэрца", падчас якой піянеры ўдзельнічалі ў розных конкурсах і экалагічных праектах, даглядалі магілкі. Дарэчы, у рамках гэтага форума таксама праходзяць экалагічныя мерапрыемствы. Юныя прадстаўнікі "чырванагальштучнага руху" сустрэліся са Школай актыву, удзельнічалі ў святе піянерскай дружыны, розных аглядах і спаборніцтвах, у акцыі "Добрая цацка".

Выхаванцам ліпецкіх дзіцячых дамоў удзельнікі злёту перадалі цацкі, зробленыя ўласнымі рукамі.

І дарослым членам піянерскіх арганізацый таксама не даводзіцца сумаваць. Па праблемах рэгіянальнага піянерскага руху яны дыскутуюць на навукова-практычнай канферэнцыі. У дружынах у рамках збору праходзяць майстар-класы, дзе прадстаўляюцца аўтарскія методыкі. Навуковую экспертызу гэтыя методыкі праходзяць проста на месцы — вучоныя-педагогі ў Ліпецк запрошаны непасрэдна з Масквы.

Дзве праграмы плануецца прыняць па выніках злёту: праграму 80-гадовага юбілею піянерскага руху, які будзе адзначацца ў наступным годзе, і на 2001 — 2003 гг. — праграму агульнапіянерскіх спраў. Акрамя таго, удзельнікі маюць намер прыняць зварот да сваіх аднадумцаў, прадстаўнікоў грамадскасці і органаў улады.

Вялікую падтрымку і садзеянне Беларускай Рэспубліканскай піянерскай арганізацыі аказвае Дзяржаўны камітэт па справах моладзі Рэспублікі Беларусь.

## Той дзень не за гарамі...

Традыцыйна, у рамках праграмы "Спадчына", Беларуская рэспубліканская піянерская арганізацыя на возеры Бадук — у запаведніку "Блакітныя азёры", на тэрыторыі парка "Нарачанскі" — арганізоўвае палатачны летнік.

Гэтае месца для яго было абрана невыпадкова. Запаведнік "Блакітныя азёры" садзейнічае фарміраванню і развіццю экалагічнай культуры нашых дзяцей. А ландшафт дазваляе пазнаёміцца з усёй разнастайнай прыродай Беларусі.

Развіццё экалагічнай культуры дзяцей, набыццё навыкаў жыцця на прыродзе і ў гармоніі з ёй, а таксама вывучэнне нацыянальных традыцый, правядзенне краязнаўчай работы — асноўная мэта праграмы "Спадчына". Зыходзячы з умоў і сацыяльнага асяроддзя, вызначаецца некалькі кірункаў дзейнасці піянерскіх дружын.

Лідэры іх, актывісты, прадстаўнікі абласцей — усяго 100 чалавек — гэтым летам правялі тут свой адпачынак. Мінскую вобласць, напрыклад, прадстаўлялі барысаўчане, Брэсцкую — піянеры гэтага абласнога горада, Віцебскую — Пастаўскі раён, а піянерская дружына Зэльвы — Гродзенскую.

Летніку аказвае падтрымку ў аздараўленні дзяцей Нацыянальны цэнтр санаторна-курортнага лячэння і аздараўлення насельніцтва.

Згодна з планам работы, праведзен шэраг мерапрыемстваў — трэнінгавыя заняткі, гульневыя эстафеты, акцыі, накіраваныя на развіццё пэўных навыкаў жыцця на прыродзе.

Сёлета летнік адзначыў сваё шасцігоддзе. Да гэтага свята дзеці праводзілі дзейсную падрыхтоўку: пісалі віншаванні, развучвалі пэўную праграму, малявалі плакаты.

Адметна, што гэтая падзея тут супала з днём нараджэння адной з самых маленькіх яго ўдзельнікаў — дзяўчынкі Жэні, якой таксама споўнілася шэсць гадоў. Яна прыехала на адпачынак разам з мамай, якая з'яўляецца адным з арганізатараў летніка. І, вядома, не за гарамі той дзень, калі Жэня павяжа піянерскі гальштук.

**Пётр ШУБЯНОК.**

# Інструктыўна-метадычныя пісьмы Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь на 2001 – 2002 навучальны год

## Працоўнае навучанне, "Тэхналогія"

### А. Арганізацыя працоўнага (прафесійнага) навучання і навучання па курсу "Тэхналогія"

1. Школы (класы), якія працуюць у звычайным рэжыме (без вывучэння прадметаў на павышаным або паглыбленым узроўнях) па базавых вучэбных планах, арганізуюць працоўнае навучанне і навучанне па курсу "Тэхналогія" (у 4-х класах) па гэтых інструктыўна-метадычных рэкамендацыях.

Заняткі па працоўным навучанні, факультатыўныя заняткі і заняткі на курсах па выбары ў 5-11 класах школ, якія працуюць па вучэбных планах 11-гадовай школы, ажыццяўляюцца па праграмах сярэдняй агульнаадукацыйнай школы 1995-1997 гг. выдання. Заняткі па курсу "Тэхналогія" ў 4-х класах, якія працуюць па вучэбных планах 12-гадовай школы, ажыццяўляюцца па праграмах 2001 г. выдання, даведзеных да агульнаадукацыйных школ з улікам мясцовых умоў (праграмы асобныя для хлопчыкаў і дзяўчынак, для гарадскіх і сельскіх школ) абласнымі ІПК. Факультатыўныя заняткі і заняткі на курсах па выбары ў гэтых класах ажыццяўляюцца па праграмах сярэдняй агульнаадукацыйнай школы 1995-1997 гг. выдання.

Заняткі па прафесійным навучанні ў 10-11 (12) класах пры падрыхтоўцы трактарыстаў-машыністаў на права кіравання трактарамі катэгорый "А", "А" і "В" павінны ажыццяўляцца толькі па зборніку "Учебный план и программы подготовки в средних общеобразовательных школах и межшкольных учебно-производственных комбинатах трактористов-машинистов на право управления тракторами категорий "А" и "А", "В".-Мн.: НМЦентр, 1996; пры падрыхтоўцы вадзіцеляў транспартных сродкаў катэгорыі "С" і трактарыстаў-машыністаў на права кіравання трактарамі катэгорыі "А" — па зборніку "Учебный план и программы общеобразовательных школ и межшкольных учебно-производственных комбинатов. Подготовка водителей транспортных средств категории "С" и трактористов-машинистов на право управления тракторами категории "А". -Мн.: НМЦентр, 1999; пры падрыхтоўцы вадзіцеляў аўтатранспартных сродкаў катэгорыі "В" — па зборніку "Учебный план и программы общеобразовательных учебных заведений и межшкольных учебно-производственных комбинатов. Подготовка водителей автотранспортных средств (категория "В").-Мн.: НМЦентр, 1998; пры падрыхтоўцы вадзіцеляў транспартных сродкаў катэгорыі "А" (вадзіцеляў матацыклаў) — па зборніку "Учебный план и программы подготовки водителей на право управления транспортными средствами категории "А". -Мн., 1999.

Арганізацыя навучання і дзяленне класаў у залежнасці ад месца правядзення заняткаў і іх тыпаў вызначаецца ў тлумачальнай запісцы да вучэбных планаў агульнаадукацыйных школ на 2001-2002 навучальны год, зацверджаных загадам Міністэрства адукацыі "Аб вучэбных планах агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь на 2001-2002 навучальны год" ад 20.06.2001 № 311.

2. У школах (класах) з павышаным або паглыбленым вывучэннем прадметаў арганізацыя працоўнага навучання ў 8-11 (12) класах прадугледжвае ўзгадненне зместу працоўнага навучання з праграмамі адпаведных профільных дысцыплін або вывучэнне спецкурсаў за кошт гадзін працоўнага навучання толькі тых, якія пазначаны ў тлумачальнай запісцы да вучэбных планаў 2001-2002 навучальнага года. На вывучэнне гэтых спецкурсаў можна выкарыстоўваць 1 або 2 гадзіны ў тыдзень. Калі змест працоўнага навучання не ўзгоднены з праграмамі прафілюючых дысцыплін, пры арганізацыі працоўнага навучання належыць кіравацца праграмамі масавай школы 1995-1997 гг. выдання.

3. Арганізацыя працоўнага або прафесійнага навучання на паглыбленым узроўні (тэхналагічны профіль) у 8-11 (12) класах ажыццяўляецца па базавых вучэбных планах з выкарыстаннем колькасці гадзін на агульнаадукацыйныя прадметы на базавым узроўні. На працоўнае (профільнае) навучанне ў 8-9 класах — па 4 г + прадметы дыферэнцыяванага кампанента "Уводзіны ў эканоміку" (8-9 класы, па 1 г. у кожным класе) і "Асновы выбару прафесіі" (9 клас, 1 г.); на працоўнае (прафесійнае) навучанне ў 10-11 (12) класах — па 6 г.+ прадметы дыферэнцыяванага кампанента "Уводзіны ў эканоміку" (10-11 класы, па 1 г. у кожным класе) і "Асновы прадпрымальніцтва" (10-11 класы, па 2 г. у кожным класе).

У класах (групах) тэхналагічнага профілю пры правядзенні заняткаў па прафесійным навучанні (незалежна ад месца правядзення) дазваляецца дзяленне класаў (груп) на 2 групы (падгрупы) пры наяўнасці ў класе (групе) 20 і больш вучняў у гарадскіх школах (ВВК), 15 і больш вучняў — у сельскіх школах (ВВК). Камплектаванне класаў тэхналагічнага профілю ажыццяўляецца на добраахвотнай аснове ў адпаведнасці з пажаданнямі вучняў і іх бацькоў.

Увядзенне тэхналагічнага профілю на ўзроўні 5-7 класаў магчыма толькі ў выключных выпадках па рашэнні мясцовых органаў кіравання адукацыяй.

### Б. Арганізацыя працоўнай (вытворчай) практыкі

Працоўная практыка ў 4, 5-8, 10 класах арганізуецца па рашэнні педагагічнага савета школы. Ён вызначае тэрміны (дазваляецца на працягу лета ў адпаведнасці з графікам, які распрацоўвае кожная школа), парадак і магчымасць арганізацыі практыкі, зыходзячы з мясцовых умоў. У вучэбных планах вызначана прыкладная колькасць дзён і гадзін на правядзенне практыкі. Прычым неабходна мець на ўвазе, што абавязковымі з'яўляюцца гадзіны, адведзеныя ў планах у кожным класе. Іх можна размяркоўваць і на большую колькасць дзён, чым прыведзена ў планах.

Пры правядзенні працоўнай практыкі клас на групы не дзеліцца.

Працоўная практыка можа праводзіцца таксама ў аздараўленчых, спартыўных лагерах, лагерах працы і адпачынку, вучнёўскіх вытворчых брыгадах (звеннях), а таксама ў парадку індывідуальнага працаўладкавання вучняў.

З вучнямі 10 класаў, якія праходзяць прафесійную падрыхтоўку ў школах, міжшкольных ВВК, політэхнічных цэнтрах, ПТНУ і на прадпрыемствах, вытворчая практыка праводзіцца толькі па профілі навучання на працягу 20 дзён па 6 гадзін у тыдзень (усяго 120 г.). Дзяленне класаў на 2 групы пры правядзенні вытворчай практыкі ажыццяўляецца пры ўмове вывучэння двух профіляў у тым жа парадку, як і пры арганізацыі заняткаў па працоўным навучанні. Калі ў класе з абазначанай напаўняльнасцю вывучаўся адзін профіль, то дзяленне класа (групы) пры правядзенні вытворчай практыкі дапускаецца ў тым выпадку, калі яна праводзіцца ў міжшкольных вучэбна-вытворчых камбінатах, школьных і міжшкольных вучэбна-вытворчых майстэрнях, прафесійна-тэхнічных навучальных установах, майстэрнях прадпрыемстваў (калгасаў, дзяржгасаў) і ў якіх няма магчымасці размясціць адначасова ўсіх вучняў класа (групы).

### В. Арганізацыя заканчэння навучальнага года і правядзенне кваліфікацыйных экзаменаў

Вучні 11 (12) класаў агульнаадукацыйных навучальных устаноў, а таксама выпускнікі спецыяльных агульнаадукацыйных школ-інтэрнатаў, школ, спецыяльных класаў і класаў інтэграванага навучання, якія прайшлі курс прафесійнага навучання, могуць па сваім жаданні здаваць кваліфікацыйныя экзамены. Яны праводзяцца ў тэрміны, якія ўстанаўліваюцца адміністрацыяй школы (ВВК, політэхнічнага цэнтра, ПТНУ і інш.), але не пазней, чым за два тыдні да пачатку экзаменаў па агульнаадукацыйных прадметах. Кваліфікацыйны экзамен па ўсіх профілях і прафесіях уваходзіць у лік экзаменаў па выбары.

Здача кваліфікацыйнага экзамена ў школе (ВВК, політэхнічным цэнтры, ПТНУ і інш.) залічваецца як здача аднаго з экзаменаў па выбары незалежна ад таго прысвойваецца адпаведная кваліфікацыя і атрымлівае вучань кваліфікацыйнае пасведчанне ці не.

Выніковая адзнака, якая ўносіцца ў дакумент аб адукацыі, выстаўляецца з улікам гадавой і экзаменацыйных адзнак па тэарэтычным і практычным курсах. Аднак, пры гэтым неабходна мець на ўвазе: калі вучань атрымаў на экзамене адзнаку "5" і ў адной з чвэрцяў у 11 класе ў яго была таксама адзнака "5", то выніковая адзнака выстаўляецца "5" (выдатна).

Вучні, якія не здалі кваліфікацыйны экзамен ва ўстаноўленыя тэрміны, паўторна здаюць яго з 20 па 25 мая. Калі вучань не здаў кваліфікацыйны экзамен і паўторна, то ён здае ў школе ўсе шэсць экзаменаў па агульнаадукацыйных прадметах.

Вучні 11 (12) класаў, якія не праходзілі прафесійнага навучання, могуць здаваць сярод экзаменаў па выбары экзамен па працоўным навучанні. Гэты экзамен праводзіцца ва ўстаноўленыя тэрміны (з 1 па 25 чэрвеня) і павінен уключаць дзве часткі: тэарэтычныя пытанні (не менш двух) у адпаведнасці з праграмай навучання і практычнае заданне на распрацоўку тэхналагічнай карты вырабу таго ці іншага аб'екта працы (у адпаведнасці з пералікам аб'ектаў працы, рэкамендуемых праграмамі). Падагульняючая адзнака выстаўляецца ва ўстаноўленым парадку.

## "Асновы бяспекі жыццядзейнасці", дапрызыўная і медыцынская падрыхтоўка

У адпаведнасці з вучэбнымі планамі агульнаадукацыйных школ на 2001-2002 навучальны год, зацверджаных загадам Міністэрства адукацыі "Аб вучэбных планах агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь на 2001-2002 навучальны год" ад 20.06.2001 № 311 у агульнаадукацыйных навучальных установах вывучэнне прадмета "Асновы бяспекі жыццядзейнасці" завяршаецца ў 8 класе.

У вучэбных планах прадмет "Асновы бяспекі жыццядзейнасці" — 4 клас 12-гадовай школы — пазначаны разам з фізічнай культурай. Ён павінен вывучацца ў тым жа аб'ёме і па той жа праграме, што і ў 5 класе 11-гадовай школы.

Заняткі ў 10-11 (12) класах па дапрызыўнай і медыцынскай падрыхтоўцы праводзяцца асобна для юнакоў і дзяўчат незалежна ад напаўняльнасці класаў.

У 2001-2002 навучальным годзе, як і ў 2000-2001, ў 8-11 класах вывучаецца раздзел "Окружающий мир и возможные опасности для жизни и здоровья человека" у аб'ёме да 6 гадзін. Яго змест прыведзены ніжэй. У 10-11 (12) класах гэты раздзел вывучаецца на ўроках дапрызыўнай (юнакі) і медыцынскай (дзяўчаты) падрыхтоўкі асобна. Дадатковыя рэкамендацыі па вывучэнні курса АБЖ ў цэлым і дадатковага раздзела прыведзены пры канцы гэтага пісьма (на рускай мове).

### Окружающий мир и возможные опасности для жизни и здоровья человека

**Понятие об экстремальной ситуации.**

Влияние факторов окружающей среды на поведение человека. Жизнеопасные ситуации и эффективность деятельности человека. Экстремальная среда и ее признаки. Виды экстремальных ситуаций (техногенного, природного, социального и другого характера). Понятие о выживании. Общие правила выживания в экстремальных ситуациях.

**Экстремальные ситуации криминогенного характера.**

Город как источник социальной опасности (нарушение межличностных связей, скопление людей и материальных ценностей и т.п.). Наличие зон повышенной опасности (транспортные коммуникации, места массового отдыха, развлечений и зрелищ и др.). Формы социально опасного поведения людей. Зоны повышенной криминогенной опасности (вокзалы, стадионы, парки и другие места массового скопления людей). Роль информационного фактора в обеспечении безопасности личности и имущества. Оценка и прогнозирование развития опасной ситуации. Рефлексивное управление источником опасности.

Формы внеколлективного поведения людей. Толпа и ее виды: случайная, экспрессивная, действующая. Групповая психология. Страх и паника при возникновении опасной ситуации и их преодоление. Правила поведения и меры предосторожности при нахождении в толпе и возникновении опасной ситуации.

**Психология поведения людей в экстремальных ситуациях.**

Влияние опасных факторов окружающей среды на психику человека. Понятие стресса. Условия возникновения стрессового состояния. Влияние стресса на поведение человека. Способы преодоления стресса.

Пути повышения психологической устойчивости человека к действиям в экстремальных условиях.

Правила поведения и действия учащихся в случае возникновения экстремальных ситуаций различного характера (стихийное бедствие, авария, катастрофа и др.). Что делать, если сигнал об опасности стихийного бедствия, аварии или катастрофе застал вас на улице, в общественном транспорте, кинотеатре, месте массового отдыха и др.

**Личностные факторы безопасности.**

Естественная система защиты человека от опасностей. Защитно-приспособительные реакции организма. Краткая характеристика нервной системы. Условные и безусловные рефлексы. Характеристика анализаторов человека. Время реакции человека на действие раздражителей. Функциональное состояние и безопасность. Биоритмы и безопасность.

**Эмоционально-волевая подготовка к деятельности в экстремальных ситуациях.**

Понятие об уровнях личной безопасности деятельности человека и методах их коррекции.

Саморегуляция: сущность и содержание. Психофизиологические основы саморегуляции. Основные приемы саморегуляции.

Идеомоторная тренировка: сущность и содержание. Место идеомоторной тренировки при обучении правилам поведения в жизнеопасных ситуациях.

Волевая саморегуляция (самовнушение): сущность и содержание. Методика обучения приемам волевой саморегуляции. Групповые и самостоятельные тренировки. Индивидуальные словесные формы самовнушения.

**Социально-политические конфликты и безопасность личности.**

Опасные факторы социально-политических конфликтов и их последствия. Способы обеспечения безопасности личности в социально-политических конфликтах.

*Асновы бяспекі жыццядзейнасці (АБЖ), 5-8 класы*

Заняткі па прадмету у агульнаадукацыйных школах, ліцэях, гімназіях праводзяцца па зборніку праграм "Программы средней общеобразовательной школы. Основы безопасности жизнедеятельности (ОБЖ), 5-9 классы. Допризывная подготовка (юноши), 10-11 (12) классы. Медицинская подготовка (девушки), 10-11 (12) классы".- Мн.: НМЦентр, 1998.

**Пры рабоце з вучнямі мэтазгодна выкарыстоўваць газету "Азбука безопасности", якая пачала выдавацца з 1 чэрвеня бягучага года. У ёй змяшчаюцца матэрыялы па ўсіх раздзелах і тэмах курса.** ***(Подписной индекс — 64122. Стоимость индивидуальной подписки на месяц — 272 руб. Индекс для ведомств, учреждений и организаций — 641222. Стоимость подписки на месяц — 388 руб.).***

Колькасць гадзін, якія выдзелены на асновы бяспекі жыццядзейнасці па класах, вызначаецца вучэбнымі планамі на 2001-2002 навучальны год.

У вучэбных планах прадмет "Асновы бяспекі жыццядзейнасці" — 4 клас 12-гадовай школы — пазначаны разам з фізічнай культурай. Ён павінен вывучацца ў тым жа аб'ёме і па той жа праграме, што і ў 5 класе 11-гадовай школы.

У гэтым навучальным годзе, як і ў 2000-2001, ў агульнаадукацыйных навучальных установах вывучэнне прадмета "Асновы бяспекі жыццядзейнасці" завяршаецца у 8 класе. Гэта значыць, што праграма 9 класа будзе вывучацца ў другім паўгоддзі ў 8 класе. Разам з тым, настаўнікам неабходна скарэкціраваць змест курса ў гэтым класе. Мы прапануем наступную карэкціроўку.

Раздзел 1 праграмы 8 класа "Безопасность и защита человека в чрезвычайных ситуациях" (тэмы 1.1, 1.2, 1.3) вывучаецца ў I паўгоддзі ў аб'ёме 16 гадзін.

II-е паўгоддзе пачынаецца з вывучэння тэмы 1.4 названага раздзела. Затым вывучаецца тэма 1.4 праграмы 9 класа. Пры вывучэнні гэтай тэмы неабходна мець на ўвазе, што на яе вывучэнне выдзяляецца не 14 гадзін, як пазначана ў праграме, а трынаццаць за кошт скарачэння гадзін (з 5-і да 4-х) на вывучэнне падтэмы "Современные средства поражения".

Раздзел 2 праграмы 8 класа "Основы медицинских знаний и охрана здоровья детей" (тэма 2.1) аб'ядноўваецца з адпаведнай тэмай названага раздзела праграмы 9 класа і на яе вывучэнне адводзіцца 3 гадзіны. Гэты раздзел неабходна пачаць з вывучэння тэм наступнага зместу: "Международное движение Красного Креста и Красного Полумесяца, его составляющие: Международный Комитет Красного Креста, Международная Федерация обществ Красного Креста и Красного Полумесяца, признанные национальные общества Красного Креста и Красного Полумесяца; их гуманитарная деятельность. Основополагающие принципы Международного движения Красного Креста и Красного Полумесяца: гуманность, беспристрастность, нейтральность, независимость, добровольность, единство универсальность.

Белорусский Комитет Красного Креста и его деятельность по имплементации международного гуманитарного права. История создания, правовой статус и роль национального общества Красного Креста в развитиии и реализации положений международного гуманитарного права, основополагающих принципов движения".

У змест праграмы гэтага раздзела (тэма 2.2 "Основы здорового образа жизни и безопасность человека"), як і ў 2000-2001 навучальным годзе, неабходна ўключыць:

**5 клас.** Пры разглядзе пытання "Инфекционные заболевания и их профилактика" даць звесткі па пытаннях: "ВИЧ-инфекция. Общее понятие о заболевании и его возбудителе".

**7 клас.** Пры разглядзе пытання "Профилактика факторов риска основных неинфекционных заболеваний" даць звесткі па пытаннях: "ВИЧ-инфекция. Источники инфекции, пути передачи. Безопасное и ответственное поведение как основа ее профилактики".

**8 клас.** Пры разглядзе пытання "Понятие об инфекционных болезнях" даць звесткі па пытаннях: "ВИЧ-инфекция. Возбудитель, источники инфекции, пути передачи, особенности поведения, способствующие заражению, основные симптомы, возможные осложнения. Течение заболевания и возможный исход. Безопасное и ответственное поведение как основа ее профилактики".

Акрамя таго, змест некаторых раздзелаў і тэм мэтазгодна ўдакладніць і дапоўніць наступным:

**5 клас.** У тэме "Ситуация в жилище" даць дадаткова "Правила пользования лифтами и поведения в кабине лифта, остановившегося (застрявшего) между этажными площадками. Бережное отношение к оборудованию, установленному в жилом доме".

У тэме "Ситуации в природе" даць дадаткова: "Знаки опасности и предупредительные надписи, правила поведения и действия при их обнаружении (наличии).

Знак радиационной безопасности. Правила поведения и действия при обнаружении знака радиационной безопасности.

Правила поведения и действия при обнаружении ртути."

**7 клас.** У падраздзел "Чрезвычайные ситуации на транспорте" уключыць тэму "Железнодорожные пути — источник повышенной опасности".

Пры вывучэнні тэмы "Нарушение экологического равновесия" дадаткова даць пытанні "Понятие о горных работах и их влиянии на экологическое равновесие. Понятие о рекольтивации нарушенных горными работами земель".

**8 клас.** Тэму "Аварии с выбросом радиоактивных веществ" называць "Радиационные аварии".

Гэты раздзел дапоўніць таксама тэмай "Аварии и инциденть на транспортных средствах,перевозящих опасные грузы" наступнага зместу: "Классификация опасных грузов и их характеристика. Отличительные признаки транспортных средств с опасными грузами. Наиболее опасные свойства веществ, перевозимых транспортными средствами, для людей и окружающей среды. Меры предосторожности, которые необходимо соблюдать при обнаружении на дороге транспортного средства с опасными грузами".

Пры рэалізацыі праграмы асноўную ўвагу неабходна звярнуць на выпрацоўку ў вучняў псіхалагічнай устойлівасці паводзін у небяспечных і надзвычайных сітуацыях і беражлівых адносін да сябе, людзей і акружаючага асяроддзя.

Планаванне матэрыялу па АБЖ у навучальных установах ажыццяўляецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі праграмы. Паслядоўнасць праходжання тэм і колькасць гадзін на іх вывучэнне могуць быць і іншымі, чым прапануецца ў праграме, магчымы змені і дапаўненні ў асобных тэмах з улікам кліматагеаграфічных умў, асаблівасцей кантынгенту навучэнцаў, выдзеленага бюджэту, чау, вучэбна-матэрыяльнай базы і іншых фактараў. Разам з тым, пераік і асноўны змест тэм пажадана не мяняць.

Заняткі па курсу могуць праводзіцца непасрэдна ў навучальнай установе або ў вучэбных цэнтрах дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакоў і ўключаюцца ў агульны расклад. Яны праводзяцца сумесна з хлопчыкамі і дзяўчынкамі настаўнікам дапрызыўнай падрыхтоўкі, ала медыцынскай тэматыцы — асобамі, якія маюць медыцынскую адукацыю або прайшлі спецыяльную падрыхтоўку.

Акрамя таго, падрыхтоўка вучняў па пытаннях бяспекі жыццядзейнасці ажыццяўляецца ў форме інструктажаў (або спецыяльных заняткаў) перад пачаткам усіх відаў дзейнасці: пры працоўнай і прафесійнай падрыхтоўцы, арганізацыі грамадска карыснай, прадукцыйнай працы, а таксама пры правядзенні экскурсій, паходаў, спартыўных і гуртковых заняткаў і іншай пазакласнай і пазашкольнай работы. Пры праходжанні працоўнай і прафесійнай падрыхтоўкі ў міжшкольных вучэбна-вытворчых майстэрнях, вучэбна-вытворчых камбінатах вучні вывучаюць пытанні бяспекі працы ў час тэарэтычных заняткаў, а таксама навучаюцца канкрэтным правілам тэхнікі бяспекі і бяспекі працы перад допускам іх да практычнай работы.

Навучальны год пажадана завяршаць правядзеннем "Дня абароны дзяцей", які неабходна праводзіць як аб'ектавую трэніроўку для падрыхтоўкі вучняў і персаналу да дзеянняў у надзвычайных сітуацыях у адпаведнасці з планам грамадзянскай абароны навучальнай установы і з улікам мясцовых умоў.

*Дапрызыўная падрыхтоўка (юнакі), 10-11 (12) класы*

Заняткі па прадмету у агульнаадукацыйных школах, ліцэях, гімназіях праводзяцца па зборніку праграм "Программы средней общеобразовательной школы. Основы безопасности жизнедеятельности (ОБЖ), 5-9 классы. Допризывная подготовка (юноши), 10-11 (12) классы. Медицинская подготовка (девушки), 10-11 (12) классы". - Мн.: НМЦентр, 1998.

Пры рабоце з вучнямі неабходна выкарыстоўваць вучэбны дапаможнік: Варламов В.Б. Допризывная подготовка юношей: Учеб.пособ. для уч-ся 10-11(12) кл.общеобр.учеб.зав. -Мн.: Редакция журнала "Адукацыя і выхаванне", 2001 і матэрыялы ў дапамогу выкладчыкам дапрызыўнай падрыхтоўкі школ і ПТВ "Проведение учебно-полевых сборов с учащимися: Метод.реком. -Мн., 2001", подготовленные методистом управления образования Гродненского облисполкома Журавковым М.А.

Колькасць гадзін, якія выдзелены на дапрызыўную падрыхтоўку па класах, вызначаецца вучэбнымі планамі на 2001-2002 навучальны год і засталася такая ж, як і ў 2000-2001 навучальным годзе.

У 2001-2002 навучальным годзе, як і ў 2000-2001, праграму курса ў 11 класе неабходна дапоўніць раздзелам 10 "Право войны в современном международном праве и международном сообществе" (на яго вывучэнне выдзяляецца 2 гадзіны за кошт скарачэння часу на вывучэнне раздзела 6 "Основы военного дела") і тэмамі наступнага зместу:

"Источники международного гуманитарного права. Взаимодополняющий характер международного гуманитарного права и прав человека. Применение. Отношения, регулируемые международным гуманитарным правом. Имплементация международного гуманитарного права.

Вооруженные конфликты: понятие и виды.

Методы и средства ведения войны. Запрещенные методы ведения войны. Запрещенные средства ведения войны.

Военные объекты. Объекты, находящиеся под защитой.

Военнопленные, их права и обязанности. Беженцы и перемещенные лица. Гражданское население. Права гражданских лиц и комбатантов в условиях вооруженных конфликтов: наказуемость и защита гражданских лиц и комбатантов. Международная защита личности. Статус покровительствуемого лица в международном гуманитарном праве.

Военные преступления. Состав преступления. Международные преступления. Конкретные виды преступлений. Наказание. Юрисдикция. Выдача преступников. Образование специальных международных трибуналов".

Колькасць гадзін, якія выдзелены на дапрызыўную падрыхтоўку па класах, вызначаецца вучэбнымі планамі на 2001-2002 навучальны год і засталася такая ж, як і ў 2000-2001 навучальным годзе.

Для юнакоў на дапрызыўную падрыхтоўку ў агульнаадукацыйных установах усіх тыпаў адводзіцца 98 або 132 гадзіны (вызначае навучальная ўстанова з выкарыстаннем гадзін школьнага кампанента), з іх 30 гадзін - на вучэбна-палявыя зборы.

З юнакамі навучальных устаноў, якія размешчаны ў зоне радыяцыйнага забруджвання з жорсткім санітарным кантролем (дзе не рэкамендаваны сельскагаспадарчыя палявыя работы), дапрызыўная падрыхтоўка праводзіцца ў аб'ёме 68 або 102 гадзін (без вучэбна-палявых збораў).

На заняткі па дапрызыўнай падрыхтоўцы адводзіцца па 1 ці 2 гадзіны ў тыдзень — у 10-х класах (1 гадзіна, адведзеная вучэбным планам, і 1 гадзіна за кошт школьнага кампанента; праграма даецца ў двух варыянтах) і па 1 гадзіне ў тыдзень — у 11-х (12-х) класах. Заняткі могуць праводзіцца непасрэдна ў навучальных установах штотыднёва, метадам "дні прызыўніка" (1-2 дні ў месяц па 6 гадзін) на базе вучэбных цэнтраў дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакоў ці апорных (базавых) навучальных устаноў або спалучэннем гэтых двух метадаў.

5-дзённыя вучэбна-палявыя зборы з вучнямі 10-х класаў праводзяцца на базе абаронна-спартыўных аздараўленчых лагераў, вучэбных цэнтраў дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакоў, лагераў працы і адпачынку, воінскіх часцей за кошт летняй працоўнай (вытворчай) практыкі.

З вучнямі навучальных устаноў раёнаў (гарадоў), дзе вучэбна-матэрыяльная база не дазваляе правядзенне збораў, палявыя заняткі могуць праводзіцца шляхам штодзённых выхадаў.

Тэрміны правядзення вучэбна-палявых збораў вызначаюцца рашэннем выканкамаў Саветаў дэпутатаў ці Адміністрацыі раёнаў (гарадоў) па ўзгадненні з навучальнымі ўстановамі. Аднак пажадана вучэбна-палявыя зборы праводзіць у першыя 5 дзён чэрвеня.

Заняткі з юнакамі па вывучэнні прызначэння і агульнай будовы малакалібернай вінтоўкі, аўтамата Калашнікава і ручных гранат (пры іх адсутнасці) праводзяцца на макетах і па табліцах. У навучальных установах, у якіх адсутнічаюць малакаліберныя вінтоўкі, выкананне практыкаванняў па стральбе ў час вучэбна-палявых збораў ажыццяўляецца ў навучальных установах, якія маюць вінтоўкі, і ў тэрміны, якія ўстанаўлівае аддзел адукацыі. У 11-х класах (або ў 10-х класах у час вучэбна-палявых збораў) праводзіцца аднадзённы палявы выхад з выкананнем практыкаванняў стральбы з аўтамата Калашнікава (пры наяўнасці такой магчымасці).

З юнакамі навучальных устаноў зон жорсткага санітарнага кантролю вучэбна-палявыя зборы не праводзяцца. Час і месца правядзення з імі стральбы з аўтамата Калашнікава (пры наяўнасці такой магчымасці), наведванне воінскай часці ў мэтах азнаямлення з размяшчэннем і жыццём асабовага саставу, з узбраеннем і ваеннай тэхнікай вызначаюць ваенныя камісарыяты сумесна з органамі ўпраўлення адукацыяй на месцах па ўзгадненні з начальнікам гарнізона (камандзірам часці).

Планаванне матэрыялу па дапрызыўнай падрыхтоўцы ў навучальных установах ажыццяўляецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі праграмы. Паслядоўнасць праходжання тэм, іх змест і колькасць гадзін на вывучэнне могуць быць і іншымі, чым прапануецца ў праграме, удакладненымі з улікам мясцовых умоў, разам з тым, пералік і асноўны змест тэм пажадана не мяняць, а вучні павінны атрымаць глыбокія і трывалыя веды і практычныя ўменні ў поўным аб'ёме.

Выніковую ацэнку ведаў можна ажыццяўляць па чвэрцях або паўгоддзях. Агульная адзнака (гадавая) выстаўляецца па выніках кантрольных заняткаў па раздзелах праграмы і з улікам бягучых адзнак за тэорыю на агульных падставах. Выніковая адзнака за поўны курс навучання выстаўляецца на падставе гадавых.

Юнакі, якія не прайшлі вучэбна-палявыя зборы (не выканалі нарматывы, прыёмы, практыкаванні), за год не ацэньваюцца, а выніковая адзнака ім не выстаўляецца. Пры наяўнасці ўважлівых прычын ім прадстаўляецца магчымасць здаць прадугледжаныя праграмай нарматывы ў іншы час (на працягу першай чвэрці ў 11-м класе). У выключных выпадках пры прадстаўленні апраўдальных дакументаў выніковая адзнака па дапрызыўнай падрыхтоўцы можа быць выстаўлена па рашэнні педагагічнага савета навучальнай установы па бягучых адзнаках.

Заняткі з юнакамі праводзяцца настаўнікамі дапрызыўнай падрыхтоўкі. Пажадана пры правядзенні заняткаў нашэнне ваеннай формы адзення афіцэрамі запасу і ў адстаўцы. Больш дэталёвыя рэкамендацыі па арганізацыі і правядзенні заняткаў дадзены ў тлумачальнай запісцы да праграмы.

*Медыцынская падрыхтоўка (дзяўчаты), 10-11 (12) класы*

Заняткі па прадмету у агульнаадукацыйных школах, ліцэях, гімназіях праводзяцца па зборніку праграм "Программы средней общеобразовательной школы. Основы безопасности жизнедеятельности (ОБЖ), 5-9 классы. Допризывная подготовка (юноши), 10-11 (12) классы. Медицинская подготовка (девушки), 10-11 (12) классы". - Мн.: НМЦентр, 1998.

Пры рабоце з вучнямі неабходна выкарыстоўваць вучэбны дапаможнік Федюкович Н.И. Основы медицинских знаний: Учеб.пособ. для уч-ся 10-11(12) кл.общеобр.учеб.зав. -Мн.: Нар.асвета, 2000. Колькасць гадзін, якія выдзелены на медыцынскую падрыхтоўку па класах, вызначаецца вучэбнымі планамі на 2001-2002 навучальны год і засталася такая ж, як і ў 2000-2001 навучальным годзе.

У 2001-2002 навучальным годзе, як і ў 2000-2001, праграму курса ў 11 класе (раздзел 3. Уход за пораженными и больными) тэму "Общество Красного Креста" неабходна дапоўніць тэмамі наступнага зместу:

"Международное движение Красного Креста и Красного Полумесяца, его составляющие: Международный Комитет Красного Креста, Международная Федерация обществ Красного Креста и Красного Полумесяца, признанные национальные общества Красного Креста и Красного Полумесяца; их гуманитарная деятельность. Основополагающие принципы Международного движения Красного Креста и Красного Полумесяца: гуманность, беспристрастность, нейтральность, независимость, добровольность, единство универсальность.

Белорусский Комитет Красного Креста и его деятельность по имплементации международного гуманитарного права. История создания, правовой статус и роль национального общества Красного Креста в развитиии и реализации положений международного гуманитарного права, основополагающих принципов движения".

На гэтыя тэмы пажадана выдзеліць спецыяльны ўрок і дэталёва разгледзець усе названыя пытанні з выкарыстаннем канкрэтных прыкладаў гуманітарнай дзейнасці Міжнароднага Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца і нацыянальнага Камітэта Чырвонага Крыжа.

Для дзяўчат на медыцынскую падрыхтоўку ў навучальных установах усіх тыпаў адводзіцца 86 гадзін, з іх 18 — на практычныя заняткі, пасля 10-га класа (пры правядзенні практычных заняткаў на базе вучэбных цэнтраў дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакоў на іх адводзіцца 30 гадзін).

На заняткі па медыцынскай падрыхтоўцы адводзіцца па 1 гадзіне ў тыдзень у 10-11-х (12-х) класах. Заняткі могуць праводзіцца непасрэдна ў навучальных установах штотыднёва, метадам "дзень медыка" (1-2 дні ў месяц па 6 гадзін) на базе медыцынскіх устаноў, вучэбных цэнтраў дапрызыўнай падрыхтоўкі юнакоў ці апорных (базавых) навучальных устаноў або спалучэннем гэтых двух метадаў.

3-дзённыя (5-дзённыя) практычныя заняткі з дзяўчатамі могуць праводзіцца на базе лячэбных устаноў, непасрэдна у навучальнай установе або на паветры (на стадыёне, у двары школы і інш.).

З дзяўчатамі навучальных устаноў зон жорсткага санітарнага кантролю практычныя заняткі праводзяцца толькі ў памяшканні.

Пры правядзенні практычных заняткаў па тэме 2 пры выстаўленні адзнак час выканання нарматываў не ўлічваецца.

Планаванне матэрыялу па медыцынскай падрыхтоўцы ў навучальных установах ажыццяўляецца ў адпаведнасці з патрабаваннямі праграмы. Паслядоўнасць праходжання тэм, іх змест і колькасць гадзін на вывучэнне могуць быць і іншымі, чым прапануецца ў праграме, удакладненымі з улікам мясцовых умоў, разам з тым, пералік і асноўны змест тэм пажадана не мяняць, а вучні павінны атрымаць глыбокія і трывалыя веды і практычныя ўменні ў поўным аб'ёме.

Выніковую ацэнку ведаў можна ажыццяўляць па чвэрцях або паўгоддзях. Агульная адзнака (гадавая) выстаўляецца па выніках кантрольных заняткаў па раздзелах праграмы і з улікам бягучых адзнак за тэорыю на агульных падставах. Выніковая адзнака за поўны курс навучання выстаўляецца на падставе гадавых.

**(Продолжение на 5-й стр.)**

